

Расспяваная Ірэна➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Школа беларусістыкі➔5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3211) Год LXII

Беласток, 26 лістапада 2017 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Тарашкевіч, Колас — дэкамунізацыя ці заўзятасць?

**У спіс запрапанаваны да другога этапу дэкамунізацыі трапіла 12 вуліц на Падляшшы. У ім апынулася вуліца Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Няма яшчэ афіцыйнага абгрунтавання, чаму беларускага дзеяча, стваральніка граматыкі беларускай мовы і перакладчыка, ахвяру сталінскіх рэпрэсій Браніслава Тарашкевіча сталі лічыць прапагандыстам ідэй камунізму. II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім не атрымаў ніякай інфармацыі з патрабаваннем змены патрона школы. Затое паявіліся чуткі, што ў рамках дэкамунізацыі могуць быць зменены назвы вуліц Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы.**

Згодна з адпаведнымі законамі дэкамунізацыя патронаў вуліц і плошчаў у Польшчы павінна адбыцца ў двух этапах. Да 2 верасня гэтага года самаўрадавыя ўлады павінны былі змяніць патронаў вуліц і плошчаў, якія прапагандуюць камунізм або іншую таталітарную сістэму. Да другога этапу дэкамунізацыі, які павінен закончыцца 2 снежня, у Падляшскім ваяводстве прадугледжаны 12 вуліц. Прэс-сакратар падляшскага ваяводы Анна Ідзькоўская паінфармавала, што вуліца Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім знаходзіцца на спіску 12 вуліц прадбачаных Інстытутам нацыянальнай памяці ў Варшаве да змены назваў. Падляшскі ваявода пачаў працэс змены назвы гэтай вуліцы. Бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі ад імя падляшскага ваяводы атрымаў ліст ад 25 кастрычніка. Напісана ў ім пра неабходнасць выдачы падляшскім ваяводам заменнага рашэння ў справе перайменавання вуліцы ў Бельску-Падляшскім, якой актуальным патронам з'яўляецца Браніслаў Тарашкевіч. У лісце можна прачытаць, што назва вуліцы Браніслава Тарашкевіча была прызнана Інстытутам нацыянальнай памяці за нязгодную з законам аб забароне прапагандавання камунізму або іншай таталітарнай сістэмы і ваявода звяртаецца з просьбай запрапанаваць да 24 лістапада новую назву вуліцы.

— Ліст ад падляшскага ваяводы я атрымаў 26 кастрычніка і як бургамістр дам адказ на яго ў запрапанаваным часе. Браніслаў Тарашкевіч — выдатны беларускі дзеяч, перакладчык і стваральнік граматыкі беларускай мовы. Яго іменем не толькі названа вуліца, але перш за ўсё ён патрон Беларускага ліцэя ў Бельску. Вучні, настаўнікі і выпускнікі белліцэя звыкліся з патронам школы і мы ставімся на яго з вялікай пашанай. Буду прапанаваць ваяводу пакінуць назву вуліцы Тарашкевіча ў Бельску і выкрасліць з абгрунтавання прыналежнасць Тарашкевіча да Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Гэта было запісана ў абгрунтаванні ў 1987 годзе, калі новастворанай вуліцы ў нашым горадзе было прысвоена імя Браніслава Тарашкевіча. У новапрапанаваным абгрунтаванні для назвы вуліцы імя Браніслава Тарашкевіча маем намер напісаць, што быў ён ахвярай сталінскіх рэпрэсій і звярнуць увагу на яго дзейнасць у карысць беларускай мовы, культуры і на яго грамадскую дзейнасць для дабра грамадзян у якасці пасла Сейма II Рэчы Паспалітай. Падляшскі ваявода звярнуўся з падобнай просьбай да Рады горада Бельск-Падляшскі і яго прапанова будзе разглядацца на пасяджэннях камісій і магчыма, што выпрацаванае рашэнне будзе выносіцца на галасаванне на сесіі Рады 28 лістапада, бо не будзе ўжо сесіі перад 24 лістапада. У ваяводы ёсць час да 2 снежня, каб згодна з адпаведнымі законамі прыняць рашэнні наконт змены патронаў вуліц, якіх абвінавачваюць у прапагандаванні камунізму, — сказаў бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі.

Паехаў я ў Бельск, каб распытаць жыхароў вуліцы Тарашкевіча, як ставяцца да яе патрона. Размешчана яна каля вуліцы Браньскай, з якой дарога вядзе ў Браньск. Спачатку трэба павярнуць направа з гэтай адной з галоўных вуліц Бельска ў вуліцу Яраслава Кастыцэвіча, беларускага дзеяча і шматгадовага дырэктара Бельскага белліцэя, якая таксама была названа ў 1987 годзе. Далей трэба павярнуць налева ў вуліцу Юзэфа Такажэвіча і вось вуліца Тарашкевіча. Яе жыхары сказалі, што ім Браніслаў Тарашкевіч не перашкаджае і можа астацца патронам іх вуліцы.

Андрэй Сцепанюк, дырэктар II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім (патрон школы з 1969 года) кажа, што не атрымаў ніякага пісьма з патрабаваннем змены патрона ліцэя.







Urząd Miasta Bielsk Podlaski
WPŁYNĘŁO
2017 -10- 26

WOJEWODA PODLASKI
15-213 Białystok, ul. Mickiewicza 3

NK-II.4102.8.2017.AK

Białystok, 25 października 2017 r.

Pan
Jarosław Borowski
Burmistrz Miasta Bielsk Podlaski

Rada Miasta Bielsk Podlaski

W związku z koniecznością wydania przez Wojewodę Podlaskiego zarządzenia zastępczego w sprawie nadania nazwy ulicy w Bielsku Podlaskim, której aktualnym patronem jest Bronisław Taraszkiewicz, a która to nazwa uznana została przez Instytut Pamięci Narodowej Komisję Ścigania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu za niezgodną z zapisami art. 1 ustawy z dnia 1 kwietnia 2016 r. o zakazie propagowania komunizmu lub innego ustroju totalitarnego przez nazwy jednostek organizacyjnych, jednostek pomocniczych gminy, budowli, obiektów i urządzeń użyteczności publicznej (Dz.U. z 2016 r. poz. 744 z późn. zm.), zwracam się z uprzejmą prośbą o ewentualne wskazanie propozycji nowej nazwy.

Proszę o przekazanie informacji w powyższym zakresie w terminie do dnia 24 listopada 2017 r. z powołaniem się na znak sprawy jw.

Z up. WOJEWODY PODLASKIEGO

Zofia Silwonik
Dyrektor
Wydziału Nadzoru i Kontroli

— Браніслаў Тарашкевіч быў стваральнікам беларускай граматыкі, пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча і «Іліяду» Гамера. Вядомы ён нашым вучням як дзеяч польска-беларускага памежжа, пасол Сейма II РП і ахвяра сталінскіх рэпрэсій. Я ўсё ж лічу, што закалот закончыцца тым, што астанецца нязмененай вуліца імя Браніслава Тарашкевіча і не будзе патрэбы змагацца за тое, каб Тарашкевіч астаўся нашым патронам, — заявіў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

У рамках другога этапу дэкамунізацыі праверку біяграфій патронаў вуліц і плошчаў у Польшчы аналізуе і ацэньвае, між іншым, група гісторыкаў у Кракаве, дзейнасцю якой кіруе доктар гістарычных навук Мацей Коркуць. Сказаў ён у размове для Радыё «Свабода», што рашэнне аб дэкамунізацыі вуліцы імя Браніслава Тарашкевіча ўжо прынята.

— Бясспрэчна, у яго [Браніслава Тарашкевіча, — А. М.] ёсць заслугі перад беларускай мовай. Але гэта не адмяняе яго ную камуністычную дзейнасць, — лічыць доктар Мацей Коркуць.

Паявіліся таксама чуткі, што ў рамках дэкамунізацыі могуць быць зменены назвы вуліц Якуба Коласа і Янкі Купалы ў Гайнаўцы.

— Вуліц імя Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы няма ў спісе 12 вуліц прадугледжаных да другога этапу дэкамунізацыі ў нашым ваяводстве, але дзейнасць патронаў гэтых вуліц аналізуецца Інстытутам нацыянальнай памяці, — заявіла прэс-сакратар падляшскага ваяводы Анна Ідзькоўская. — Калі самаўрады не будуць згаджацца з рашэннем ваяводы ў справе змены назваў вуліц, могуць абскардзіць рашэнне ў Ваяводскі адміністрацыйны суд, а пасля яшчэ ў Вышэйшы адміністрацыйны суд.

— Мы раней атрымалі спісак вуліц у Гайнаўцы, якіх патронаў трэба было памяняць згодна з законам аб дэкамунізацыі і мы гэта зрабілі. Не атрымалі ніякіх інфармацый і патрабаванняў памяняць патронаў вуліц Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы, якія імі сталі ў 2007 годзе. Па вуліцы Купалы ўязджаецца на плошчу Гайнаўскага белмузея (надалей прапісаны ён па вуліцы 3 Мая, — А. М.), а непадалёк ад яе ёсць у цэнтры горада вуліца Коласа, па якой распалажаны гандлёвыя і паслуговыя суполкі, напрыклад гандлю будаўнічымі матэрыяламі, магазіны з вопраткай і з прадуктамі для нагляду за агароднінай, аўтамыйка. З вуліцы Коласа можна ўехаць пад маркет «Бядронка» (прапісаны па вуліцы Белавежскай, — А. М.). Знаходзяцца там таксама «скейтпарк» і шматлікія гаражы прыватных уласнікаў. Няма там прапісаных жыхароў, але ў выпадку змены назвы вуліцы прыйшлося б распалажаным па гэтай вуліцы суполкам мяняць адрасы. Аднак я думаю, што выдатныя беларускія пісьменнікі Янка Купала і Якуб Колас, якія моцна заслужыліся для развіцця беларускай літаратуры і мовы, застануцца патронамі вуліц у Гайнаўцы, — сказаў намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка.

— Да вуліцы Янкі Купалы ў нас няма пытанняў. Ён не быў актыўным дзеячам

працяг ☞ 4





# Няма месца

Няма беларусам месца на гэтым свеце. Нібыта і планета наша вялікая, а сусвет яшчэ большы — некалькі нашых суайчыннікаў нават у космас злёталі за апошнія дзесяцігоддзі. А вось на зямлі — нiяк не знаходзіцца месца. Нібыта і дзяржаву сваю маем, ды не абы-якую — ажно трынаццатая (!) па плошчы ў Еўропе амаль з паўсотні дзяржаў кантынента. Вось парадокс які — дзяржава Рэспубліка Беларусь ёсць, а беларусам на 207 тысячах квадратных кіламетраў месца няма. Сённяшняя РБ — адзіная краіна з былых рэспублік СССР, якая паслядоўна працягвае русіфікацыю. Пра гэта гаворыцца ў выніках нядаўняга даследавання брытанскай газеты „The Financial Times", якім няма падставы не верыць. Усе, хто трымаецца карэннай мовы тытульнай нацыі — беларускай, тут непатрэбныя і лішнія.

Возьмем, прыкладам, сітуацыю з беларушчынай у Гродне. Мясцовая ўлада даўно знішчыла ўсе беларускамоўныя школы і дзіцячыя садкі, „выкарчавала" незалежныя медыі, „зачысціла" вышэйшыя навучальныя ўстановы ад беларускамоўных выкладчыкаў, загнала ў рэзервацыі дробныя палітычныя структуры і недзяржаўныя беларускія арганізацыі. Можна было б і супакоіцца. Але ж вялізны рэпрэсіўны і адміністрацыйны апарат фактычных дармаедаў мусіць неяк апраўдваць сваё існаванне і дзяржаўнае фінансаванне надалей. На мінулым тыдні гродзенская ўлада фактычна спыніла дзейнасць мастацкай галерэі „Крыга", якая месцілася ў супольным памяшканні з Цэнтрам гарадскога жыцця. Не даюць працаваць па сутнасці апошняму беларускамоўнаму культурнаму асяродку, прычым у самы подлы спосаб. Ніхто, канешне, не кажа, і мала хто ведае, у якім кабінеце і якімі „чорнымі палкоўнікамі" прынятае гэтае рашэнне. Улада прысылае нейкіх камунальнікаў, якія шукаюць фармальныя зачэпкі, высмоктваюць з пальца нібыта парушэнні і забіваюць фанерай дзверы ў другі пакой асяродка. А то разгулялася беларушчына ажно ў двух пакоях на плошчы 40 квадратных метраў, хопіць ёй і 20-ці! Прыгадалася, як аналагічным чынам забіраліся памяшканні ў газеты „Пагоня", Таварыства беларускай мовы і іншых. Тады мясцовыя ўлады сцвярджалі пра аварыйнасць будынка і ўрэшце „ўратавалі" горад ад „небяспекі". Неўзабаве ў тых памяшканнях мясцовая наменклатура адчыніла свае гандлёвыя крамы, якія працуюць і па сённяшні дзень. І з будынкам тым нічога не здараецца, неяк ён адразу і надоўга перастаў быць аварыйным.

Але плакацца не будзем. Нехта з беларусаў неўзабаве сапраўды паверыць у богаабранасць нашага народа, бо так, як беларусаў, мала каго нішчылі, пераследавалі апошнія трыста гадоў на іх жа зямлі. Некаторыя з маладых напэўна радыкалізуюцца, бо не бывае бясконцым цярпенне народа, нават такога законапаслухмянага як беларускі. Нехта ўрэшце плюне і з'едзе за мяжу, як з'ехалі ўжо дзясяткі тысяч суайчыннікаў. Бальшыня ж беларусаў, сціснуўшы зубы, працягне жыць ці існаваць у гэтай, наскрозь атручанай чужынскай мовай і чужынскімі парадкамі, атмасферы.

Няма беларусам месца і за межамі Рэспублікі Беларусь. Вось ужо ў рамках так званай дэкамунізацыі польскі Інстытут нацыянальнай памяці хоча ліквідаваць на Падляшшы назвы з імёнамі беларусаў Якуба Коласа і Браніслава Тарашкевіча. Амаль таго беднага Тарашкевіча з Дзяржынскім у адзін шэраг паставілі ўжо. Але ж, панове, трэба хоць трохі ведаць гісторыю і быць аб'ектыўнымі. Што ж злачыннага зрабіў Тарашкевіч? Толькі тое, што ў пэўны гістарычны перыяд прыналежаў да камуністычнай партыі. Нельга ж судзіць чалавека толькі за яго левыя погляды. Тым больш, як слушна заўважыў гісторык Алег Латышонак, Тарашкевіч свае памылкі акупіў уласнай жахлівай смерцю. Нельга ж ставіць на адну дошку катаў НКВД і іх ахвяр! Беларусы ж шануюць Браніслава Тарашкевіча за яго беларускую граматыку, за шматгадовую педагагічную і культурную працу на беларускай ніве, урэшце за тое, што перакладаў Міцкевіча на беларускую мову. Хочацца ўсё ж спадзявацца, што ІНП падыдзе да гэтага пытання аб'ектыўна, з улікам меркавання вядомых беларускіх гісторыкаў Польшчы і Беларусі. І што фармалістычным неабачлівым рашэннем не будуць папсаваны стасункі палякаў і беларусаў, няпростыя ў гісторыі, але дастаткова добрыя апошнія дваццаць гадоў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Пераменная выснова



Кошт выхавання аднаго фашыста ў Польшчы, падобна як дэмакрата і анархіста, у цяперашні час складае 200 тысяч злотых. Гэты перыяд лічыцца з яго дня нараджэння да дасягнення паўналецця. Пры пары дэмакратаў ці фашыстаў выхаваных у адной і той жа сям'і гэтыя выдаткі павялічваюцца да 370 тыс. А пры тройцы — да паўмільёна. Пры шасцёрцы або васьмёрцы дзяцей у сям'і гэтая лічба ўзрастае да мільёна ці больш. Шматдзетнасць, значыцца, вельмі дарагая, але гэта не значыць, што на гэта могуць дазволіць сабе толькі багатыя. Выхоўваецца дзяцей, як дасць Бог і па бацькоўскай клапатлівасці, незалежна ад іх ліку. Праблема заключаецца ў тым, што шырока распаўсюджаная хваля папулізму і ксенафобіі выкліканыя ПіС ужо выкідвае і будзе выкідваць усё больш і больш дзяцей і дарослых у бліжэйшы час на бераг фашысцкай ідэалогіі. Гэта робіцца з дапамогай адукацыйнай індактрынацыі, сродкаў масавай інфармацыі, пэўных касцельных каналаў і агульнай тэндэнцыі грамадскага настрою. Выдаткі на выхаванне, хаця цяпер такія самыя для пазнейшага фашыста або дэмакрата, у будучыні, аднак, акажуцца несуразмернымі. Прыйдзецца дорага паплаціцца ўсім палякам, ці то яны па паходжанні габрэі, беларусы ці ўкраінцы. Усім, у тым ліку і палякам-фашыстам.

Прыведзеныя вышэй лічбы з'яўляюцца прыблізнымі, але яны статыстычна правільныя. Датычныя яны не толькі да фашыстаў, але і ўсіх, па прыродзе безыдэйных дзяцей, якія па розных прычынах дэкларуюць сябе дэмакратамі ці фашыстамі, калі толькі вырастуць з дзіцячых нагавічак ці акуратных сукеначак. Неабавязкова толькі фашыстамі ці дэмакратамі. Могуць стаць анархістамі або такімі, што ўсё маюць у задніцы. Дарэчы, такой заявe ў выпадку маладога чалавека рэдка папярэднічае свядомы одум. Што ж, цяжка патрабаваць яго ад звычайна няўстойлівага маладзёна. Здаецца, што яго філасофскія або палітычныя рашэнні, кожны раз абмежаваныя феноменам часу і пранікаючых іх ідэалогій, у якіх ён спее. Уплыў асяроддзя і індактрынацыя выхавання, якім таксама падлягае, у дадзеным кантэксце маюць другараднае значэнне. У гады маёй маладосці пікам ідэалагічнага аспрэчвання былі так званыя нагавіцы-званы і хіпісаўскія «пацыфкі». Адпавядалі ім толькі доўгія, тлустыя валасы і нежаданне шэрага мыла, якое з'яўлялася сінонімам камунізму. Страсна чыталі лацінаамерыканскую, расійскую і амерыканскую літаратуры, французскіх экзістэнцыялістаў, эзатэрычныя працы Гурджыева і напалову анархістычныя Крапоткіна. Вось гэта быў канёк. Прынамсі, у маім асяроддзі. У іншых, паралельных, маладыя людзі аддавалі перавагу каляровым чубам або гітоўскім тату. Я не ведаю, што яны чыталі, і ці ўвогуле яны чыталі і што яны аспрэчвалі. Мы жылі ў асобных, адлучаных адзін ад аднаго светах. Мы ўсе жылі ў Польшчы. У любым выпадку мы аспрэчвалі дадзеную рэальнасць. Яшчэ тады мы не ведалі, што рэальнасць заўсёды такая, якая ёсць. І ў гэтым сэнсе яна нязменная. Змяняецца толькі кантэстацыйная экспрэсія. Толькі што аспрэчванне не супадае са свядомым актам ідэалагічнага выбару. Гэта прыходзіць пазней. Часам, занадта позна, каб праверыць свае філасофскія і ідэалагічныя звычкі. Ці проста ілжывыя перакананні?

Што тычыцца фактычнага кошту ўзгадавання фашыста ў Польшчы, гэта немалая сума. Не іншая, аднак, чым тая на выхаванне дэмакрата. У абодвух выпадках гэтыя лічбы некалькі гадоў таму былі б на некалькі тысяч меншыя. У час «камуны», нават з улікам каэфіцыента інфляцыі, нават меншыя. Адносна, выхаванне мяне на сацыял-дэмакрата з ліберальнымі схільнасцямі з элементамі анарха-сіндыкалізму каштавала маіх бацькоў у час «камуны» каля 100 тысяч злотых. Выдаткі, панесеныя імі, несуразмерныя да кошту выхавання сённяшніх і заўтрашніх фашыстаў. Асабліва заўтрашніх, якіх падтрымлівае праграма ПіСу «Сям'я 500 +». Варта нагадаць, што гэтая праграма фінансуецца за кошт дзяржаўнага доўгу, які прыйдзецца пагашаць бенефіцыянтам — усім дзецям ахопленым і неахопленым гэтай праграмай. А яна, варта падкрэсліць, высока інфляцыйная.

Міраслаў ГРЫКА



## Сваімі вачыма

# Ані рускі ані польскі свет

На польска-беларускім памежжы зараз падкладзены і распалены чарговы выбухны кнот. Усё дзякуючы доктару гістарычных навук Мацею Коркуцю з аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці ў Кракаве, адказнага ад імя сваёй агульнапольскай установы за дэкамунізацыю назваў вуліц ва ўсёй краіне. Сваю навуковую кар'еру гісторыка прысвяціў ён выклятым жаўнерам у паўднёвай Польшчы з асаблівым даследаваннем асобы Юзэфа Курася «Агня», супярэчлівага важака на Падгалі, які для пражываючых там славакаў, але і многіх палякаў, з'яўляецца тым, чым для нас, беларусаў, Рамуальд Райс «Буры». Спадар Коркуць, разам з цяперашнім старшынёю Інстытута нацыянальнай памяці Яраславам Шаркам, з'яўляецца суаўтарам выданняў, прысвечаных антыкамуністычнаму падполлю. Відаць, іхняя супольная кракаўская праца дала яму зараз магчымасць выконваць ролю аднаго з самых найбольш даверaных пісталетаў у пабудове ўстановы, якая імкнецца стаць не толькі ахоўнікам памяці, але ў маштабе Польшчы выконваць ролю міністэрства гістарычнай абсалютнай праўды. А ў рамках адбудовы і замацоўвання ідэі «Вялікай Польшчы» адбываецца гэта часта ў супярэчлівасці з накопленымі гадамі аб'ектыўнымі вынікамі іншых гістарычных і архіўных даследаванняў. Таму ўсім вешчунам адзінай і непадзельнай зямной гістарычнай праўды хочацца прыгадаць словы ўраджэнца Падгаля, са Старога Таргу, святой памяці ксяндза Юзэфа Тышнера, які ў сваёй кніжцы «Historia filozofii po góralsku» сцвердзіў: «Są trzy prawdy: świento prawda, tys prawda i gówno prawda».

На Падляшшы, а канкрэтна ў Бельску-Падляшскім, спадар Мацей Коркуць адшукаў да дэкамунізацыі вуліцу імя Браніслава Тарашкевіча, названую ў прасторы горада ў другой палове васьмідзясятых гадоў. Пад пільнай увагай і разглядам галоўнага дэкамунізатара вуліц краіны знаходзіцца таксама зараз і вуліца Якуба Коласа ў Гайнаўцы. Сваё становішча ІНП у Варшаве перадаў лістом падляшскага ваяводы бургамістру горада без аніякіх тлумачэнняў. Толькі потым у размовах з журналістамі гісторык патлумачыў, што прычынай гэтага рашэння з'яўляецца змест самой аўтабіяграфіі Тарашкевіча, ягоныя сеймавыя выступленні, ну і прыналежнасць да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Паколькі Браніслаў Тарашкевіч — гэта асоба агульнабеларуская вымярэння, а не толькі падляшскага, ясным стала, што маем ужо чарговы польска-беларускі міжнацыянальны канфлікт на гістарычнай аснове. Аднак жа ці не занадта многа палёў канфліктаў адкрыла зараз «польская гістарычная памяць» са сваімі суседзямі? Быць пасвараным з усімі гэта не прыкмета мудрасці. **Менавіта і такімі крокамі шматгадовы імідж Польшчы як сябра беларускай справы сярод беларускага грамадства вокамгненна рассыплецца ў пыл і прах. Беларусам непатрэбны ані рускі, ані такога кшталту польскі свет. Ёсць над чым падумаць усім тым, каму «місія крэсы» не кінулася цалкам на вочы і мазгі.** Натуральнай паслядоўнасцю такога падыходу ІНП з'яўляецца і аўтаматычнае думанне пра адно са шматгадовых, важнейшых апірышчаў беларускасці на Падляшшы — Бельскі ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча. Журналіст Радыё Свабода запытаўся ў спадара Коркуця:

„— У Бельску ёсць ліцэй Тарашкевіча. Ці назва гэтай установы таксама будзе зменена?

— Гэта грамадская ўстанова. А патрон — гэта ўзор для перайманя. І які Тарашкевіч дае прыклад моладзі? Выходзіць, што мы кажам: бярыце прыклад з патрона, дзейнічайце супраць Польшчы на карысць камунізму. Ці хацелі б вы так выхоўваць сваіх дзяцей? Я — не».

Шаноўны Пан, я як бацька, а ў мінулым абітурыент факультэта гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта, былы настаўнік гісторыі ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, а таксама як звычайны грамадзянін Польшчы не хачу, каб для мільёнаў дзяцей і моладзі ў маёй краіне прыкладам для патрыятызму і чалавечага выхавання былі, між іншым, дзеянні Рамуальда Райса «Бурага» і іншых выклятых жаўнераў, у якіх на руках кроў нявінных дарослых і дзяцей. Таксама і беларуская кроў. У Браніслава Тарашкевіча прынамсі няма крыві на руках.

Яўген ВАПА

# Рассяваная Ірэна

**Ірэна Паўлючук спявала ў гарадоцкім хоры, праз гады названым «Расспяваным Гарадком», з самага пачатку. Расказвала на шасцідзесяцігоддзі яго дзейнасці з гонарам і шчаслівай усмешкай: „Мы — адзін з першых непрафесійных калектываў беларускай песні, які з'явіўся на Падляшшы". І яна адна са знакавых асоб беластоцкай беларускай народнай песні, незабыўная, якая ўсё жыццё ёй аддала. Адзначала на юбілеі гарадоцкага хору Вера Тарасэвіч, збіральніца памятак з гісторыі калектыву, аўтарка альбома «Легенда гарадоцкай культуры — „Расспяваны Гарадок"»**



З Віктарам Маланчыкам пасля канцэрта ў Залуках

— Кожны, хто ўступіў у кантакт з сапраўдным запалам фарміравання сваіх інтарэсаў, добра ведае, колькі моцнай волі, настойлівасці і асабістых ахвяр патрабуе мастацтва ў самадзейнасці. Трэба пераадолець шэраг арганізацыйных цяжкасцей, збалансаваць сямейныя і працоўныя абавязкі, і прысвяціць свой асабісты час. У сваю чаргу, калектыў хваляць за жывучасць і даўгавечнасць, а таксама высокія мастацкія ўмеласці. Слухачы ўдзячныя за моманты радасці і прыклад мадэлі для пераймання. Гарадоцкі харавы калектыў «Расспяваны Гарадок» з'яўляецца адным з найстарэйшых, самых лепшых і самых актыўных калектываў мастацкай самадзейнасці беларускай меншасці ў Польшчы.

А Ірэна Паўлючук, у той час ужо пенсіянерка, родам з Гарадка, якая ад гадоў жыла ў Беластоку, пастаянна даязджала ў Гарадок на рэпетыцыі і выступленні. Спявала альтам. У калектыве, які першае афіцыйнае выступленне меў 8 сакавіка 1954 года, яна ад канца 1953 года. Па-за выступленнямі ў калектыве здабыла шмат поспехаў, спяваючы сола або ў дуэтах. «З'яўляецца прыкладам вельмі дысцыплінаванай сяброўкі калектыву, а яе веды пра калектыў — хранікёрскія», — коратка адзначалася ў альбоме. І за плённую і руплівую таленавітую дзейнасць Ірэна Паўлючук узнагароджвалася дзяржаўнымі і рэгіянальнымі адзнакамі — «Заслужаны для Беласточчыны», «Заслужаны для польскай культуры», Бронзавым, Сярэбраным і Залатым Крыжамі заслугі...

— Мне здаецца, што Ірэны Паўлючук належна не дацанялі, — успамінае Сцяпан Копа, які пачаў супрацоўніцтва з гарадоцкім хорам у 1967 годзе і працаваў з ім аж да XXI стагоддзя. — Яшчэ гэта не быў «Расспяваны Гарадок» а проста вакальны калектыў «Гарадок». І ад разу я ўбачыў Ірэну Паўлючук як жанчыну вельмі сціплую, вельмі канкрэтную. На кожную рэпетыцыю прыходзіла яна першай. А яе спеў характарызаваўся абсалютна выключным альтам. Тыповым народным альтам. Яна, калі вучыў я першую мелодыю — сапраны, сама ад разу падхоплівала другі голас. Мела такое пачуццё гармоніі. Не было для яе праблемы спяваць другім голасам, ці нават першым. Гэта ў залежнасці ад таго, якая шкала песні. Падхоплівала заўжды другі голас, каб спяваць сваім натуральным голасам. Калі прыходзілася развучваць песню на тры галасы, адразу сваю мелодыю хуценька апаноўвала, а калі па-народнаму дадавала сваё суправаджэнне, а трэба было крыху інакш, як я апрацаваў, адразу развучвала. Мела дасканалую памяць. Хутка прысвойвала ўсе словы, і на чарговую рэпетыцыю ведала ўсю песню. Гэта было характэрнае — прыходзіла першай, і сваім голасам — спецыфічным, непаўторным — спявала другі ці трэці голас. Калі мы ўжо разышліся, яна засталася ў «Расспяваным Гарадку», але пакольві з'ехала ў Беласток, выступала і ў «Крыніцы». Яе голас заўсёды я чуў — ён вылучаўся сярод іншых сваім характэрным колерам, — адразу чуецца, што ў гэтай групе спявае Ірэна. Спявала таксама ў дуэце. Найдаўнейшы дуэт у яе быў з Галенай Кот. І я з ёю спяваў, калі Юркі Налівайкі яшчэ не было. Пасля спявалі мы разам — Ірэна, Налівайка, я, у розных канфігурацыях. Спявала Ірэна яшчэ з іншымі жанчынамі, таксама сола, свае непаўторныя песні, якія даведалася ў свае мамы.


Ірэна Паўлючук (злева) і Лідзія Жукоўская, 1954 год

Вельмі паважала сваіх бацькоў. Яе сястра, Галена, таксама нядаўна адышла... Яшчэ наймалодшая Крысючанка, Валя, засталася...

— Ірэна была такой асобай, якая не чакала, а ішла з той песняй да людзей, — дадае Сцяпан Копа. — А як самая жанчына — скромная, вельмі сардэчная, адкрытая. Не магло быць у яе ніякай сваркі, чагосьць, што людзей дзяліла б. Заўсёды была за тым, што людзей яднае. «Расспяваны Гарадок» узяў гэтую назву толькі ў 1979 годзе, калі мы паехалі ў Мінск, мелі мы абмен з беларускім калектывам з фабрыкі, дзе будавалі станкі, вельмі прыемным калектывам, з якім мы наведваліся. «Прыехаў да нас з Беласточчыны расспяваны Гарадок!» — аб'явіла нас вядучая. Спадабалася нам гэта і ўзялі мы гэта за назву калектыву. Ірэне Паўлючук вельмі спадабалася гэтая спеўная назва... Калі хтосьці яшчэ не даспяваў, Ірэна падспеўвала, сардэчна, ветліва, паслужлівая. Такая непасрэдная, добрая жанчына... Час ішоў, мы спявалі разам. Я спяваў з Гарадком да 2002 года. Я адышоў ад «Расспяванага Гарадка» з-за зусім дробязных прычын, не звязаных з калектывам. З многімі сябрамі калектыву я сябраваў. Здаралася, што з рэпетыцыі падвозіў Ірэну дадому. Запрашала на чай. Дык пасядзелі, пагаварылі, пажартавалі. Была вельмі гасцінная. Калі чаю не вып'еш — не выпусціць дадому! Усіх частавала сваім піражным. Таксама калі супрацоўнічаў з Гарадком іншы інструктар, дык заўсёды прывозіла для яго бутэрброды, бо прыязджаў ён з Гародні. Дапамагала яму і ў начлегах, бо на пачатку не было яму дзе жыць, калі прыязджаў на рэпетыцыі. Для ўсіх людзей была гасцінная і адкрытая. Дзялілася таксама тым, што ёй збывала, аддавала. Была вельмі канкрэтная — што запланавала, тое і рэалізавала.

— Іншы бок яе жыцця, — уздыхае Сцяпан. — Вельмі яе лёс цяжкі быў. Калі я ўжо быў у Гарадку, яна са сваім Дмітрам (Меткам яго звалі) турбавалася.



Любіў ён моцна выпіць і часта дома не бываў, а калі што дома меў — не забуду, меў такі прыгожы спраўненькі матацыкл «Ява» — прадаваў на гарэлку. Ірэна ўсё тое мусіла цярпець, хаця не сварылася, не грызлася. Праз таго мужа многа, многа пакутавала. Потым такая трагедыя з дачкою: Ева першы раз паехала наведаць сваіх свёкраў і мужа ў Штатах, і ў Кабацкіх лясах самалёт разбіўся. Ева была маёй вучаніцай, і я быў выхавацелем яе класа, і настаўнікам музыкі. Тая яе дачунька Ева — такая мілая, сардэчная, вельмі прыгожая, выйшла замуж, і вось такое няшчасце... Страціць дзіця, якое давала столькі радасці, а ў Ірэны была ўжо ўнучачка... З мужам Ірэна практычна не расходзілася, пагадзілася з тым, як яно ёсць. Ён пасля адышоў ад яе. Лёс такі складаны. Але Ірэна на апускала рук. Не падала духам. Плакала, плакала ў свой час. Усе яе падтрымлівалі. Жыць жа трэба. Можа, памагала ў тым ёй песня, радасць, што яна выходзіла да людзей і несла гэтую радасць ад сябе.

... — Што сказаць яшчэ пра яе, — уздыхае Сцяпан Копа. — Цудоўны, прыгожы чалавек. І ўмела вельмі акуратна, прыгожа апрануцца. Гожа, чысценька, дапрасавана, проста дапешчана. Прыгожа прычасаная, што хораша скрывала яе «запасць» на чэрапе. Валасы ў яе віліся, і яна прыгожа іх прычэсвала, дык не было відаць для таго, хто не ведаў, што мае такую праблему. А тая запасць мела таксама ўплыў на яе здароўе. Ніколі не енчала, не наракала. Лячылася, хварэла, але старалася дапамагчы сваім сябрам па-суседску, выхоўвала ім дзяцей аж дарасці. І ў апошні час яны ёй дапамагалі як маглі, і выканалі яе апошнюю волю.

... Калі Гарадок выступіў першы раз у 1954 годзе, адразу быў заўважаны. Былі ў ім непаўторныя галасы. Апрача Ірэны цудоўны голас — альт быў у Аляксандры Яроцкай: яе голас быў моцны і глыбокі як звон, як у Людмілы Зыкінай! Такі людзям, якія столькі ўклалі ў грамадскае жыццё, за жыцця паставіць варта помнік! Ірэна не лічылася ані з грошам, ані з часам. Столькі даездаў, трэба штосьці і з'есці. Дзе ні была, ніколі не ехала з пустымі рукамі. Частавала ўсіх. Заўсёды з усмешкай, з жартам. І адразу ўключалася са сваім голасам, калі хтось толькі пачынаў спеў. Збірала ўсе песні, запісвала. Ёй моцна ў гэтым памагала Галенка Ляховіч — у запісе песень. Ірэна вельмі любіла ўсё мець прыгожа, таксама запісаныя песні. А Галенка — проста каліграф. І ўсё гэта запісала ў прыгожых, спецыяльных сшытках.

— Я так хацела, каб Ірэна Паўлючук, з роду Крысюк, выступіла на юбілеі разам з Галенай Кот — як спявалі калісь у дуэце. Але не было гэта магчыма, — уздыхае Галена Ляховіч. — Ездзіла з намі яна, хворая, у той час, калі хімію атрымлівала, на нашы выступленні ў Скерняўіцы. Ніхто больш як яна не аддаваў усіх сіл для калектыву. Так хацела жыць! Спяваць. Заўсёды педантычна, густоўна апранутая, прыгожая, дасканалая. Мне яны ўсё сняцца: Ніна Цыванюк, Юрка Налівайка, Ірэна Паўлючук і яе дачка Ева, Оля Мядзведзева, Надзя Парэмбская, што свой строй перадала мне, калі я стала з імі выступаць... Спяваюць з намі. А Ірэна, як заўсёды на нашы выступы, прыязджае з гасцінцам, пачастункам, каб усім хапіла... Асталася яна адна ў краіне, адправілі яе на той свет сябры-суседзі, дактары Іаанна і Тамаш Філіпоўскія. А яе сапраўднай сям'ёй былі на гэтай зямлі «Расспяваны Гарадок» і «Крыніца»...

Міра ЛУКША

1 ☞ працяг

## Дэкамунізацыя ці заўзятасць?




партыі, як Тарашкевіч. Нават у савецкай літаратуры ён шукаў для сябе месца. Нават калі не ўсё ў яго біяграфіі было ідэальнае, то ён з'яўляецца бясспрэчным сімвалам беларускай культуры. І мы гэта шануем. У Купалы ёсць вуліца ў Гданьску. Мы не звярталіся наконт замены яго вуліцы. Беларусы — блізкі нам народ і ў іх шмат герояў. Яны таксама былі ахвярамі таталітарызмаў. Над Коласам мы яшчэ працуем, — сказаў для Радыё «Свабода» доктар Мацей Коркуць. Старшыня Інстытута нацыянальнай памяці Яраслаў Шарэк, які ў Гродне ўдзельнічаў у сустрэчы гісторыкаў, сказаў для Польскага радыё, што Інстытут яшчэ канчаткова не вырашыў справу назвы вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Сам старшыня ІНП гатовы наладзіць спатканне польскіх і беларускіх гісторыкаў, прысвечанае Браніславу Тарашкевічу, каб абмеркаваць дакументы і пачуць аргументы беларускіх гісторыкаў.

— Я думаю, што гэта добрае рашэнне, запрасіць беларускіх гісторыкаў, каб паказаць ім дакументы і заявы Браніслава Тарашкевіча, якія сведчаць аб тым, што Інстытуту нацыянальнай памяці будзе цяжка прыняць гэтае рашэнне, — заявіў для Польскага радыё старшыня ІНП Яраслаў Шарэк.

— Няма падстаў, каб дэкамунізаваць вуліцу Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Тарашкевіч быў патаемным членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, але ж не займаўся збройным змаганнем з польскай дзяржавай і не спрычыніўся да смерці жыхароў польскай дзяржавы. Займаўся ён парламенцкай дзейнасцю, будучы паслом Сейма РП. Патрабаванне Інстытута нацыянальнай памяці і падляшскага ваяводы змяніць назву вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску ўжо выклікала адмоўныя эмоцыі сярод беларусаў Беласточчыны і можа мець адмоўнае ўздзеянне на вучняў Бельскага белліцэя, якія лічаць Тарашвевіча достойным патронам свайго ліцэя. Тарашкевіч перш за ўсё змагаўся за беларускую мову і культуру. З турмы ў Польшчы трапіў у Савецкі Саюз, абменены на Францішка Аляхновіча, і там працаваў у карысць беларускасці, а пасля загінуў як ахвяра сталінскіх рэпрэсій. Тым болей няма падстаў дэкамунізаваць вуліцы выдатных беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы, аб чым таксама паявіліся чуткі. У пазнейшы савецкі час Якуба Коласа і Янку Купалу прымусілі хваліць камуністычны лад. У іх не было выбару і калі б не ўсхвалялі савецкую рэчаіснасць, чакала б іх смерць. Прыналежнасць Коласа і Купалы да камуністычнай партыі таксама не дае падстаў дэкамунізаваць вуліцы названыя ў іх гонар. Калі б было канчатковае рашэнне перайменаваць вуліцы Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Гайнаўцы, гэта было б пераступленне мяжы незразумення і дыялог паміж польскай і беларускай нацыямі стаў бы вельмі складаным, — сказаў беларускі гісторык, прафесар Універсітэта ў Беластоку Алег Латышонак.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Тарашкевіч

## смерцю акупіў усе свае памылкі

Справа аб перайменаванні вуліцы Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім яшчэ не вырашана. Бельскае самакіраванне будзе абскарджваць рашэнне. А Беларускае гістарычнае таварыства падрыхтавала абгрунтаванне. Са старшынёй Беларускага гістарычнага таварыства прафесарам **Алегам Латышонкам** пагутарыў наш карэспандэнт.

**Радыё Рацыя:** — Палічылі, што Тарашкевіч не толькі камуніст, але і прыхільнік сталінізму.

**Алег Латышонак:** — Логіка Мацея Коркуця ясная. Для яго таго, што Тарашкевіч быў камуністам і супрацоўнічаў з СССР — ужо дастаткова, каб лічыць яго сімвалам камунізму. Для мяне і яшчэ многіх гэта непрымальна, хоць я і не адмаўляю фактаў з жыццяпісу Тарашкевіча. Для беларусаў ён не сімвал камунізму, а сімвал змагання за Беларусь. Можна лічыць, што ён пайшоў фальшывым шляхам, што паверыў у савецкі падман. Але ж з іншага боку відаць, што ён гэта хацеў скарыстаць для беларускай справы. Ён не рабіў гэта для пабудовы камунізму, у які, на мой погляд, не верыў, а толькі скарыстоўваў магчымасць. За гэта ён заплаціў самую страшную цану. Бо ён не быў расстраляны, як гэта афіцыйна падаецца, але быў закатаваны вельмі брутальным чынам.

**РР:** — Ёсць такое ўражанне, што зараз ІНП зрабіў чарговы палітычны суд над Тарашкевічам. Яго ізноў судзяць за погляды, а не за тое, што ён зрабіў.

**Алег Латышонак:** — На мой погляд, закон аб дэкамунізацыі тычыцца людзей, якія, па-першае, былі сімвалам камунізму, а, па-другое, былі злачынцамі. А Тарашкевіч ніякай злачыннай дзейнасцю не займаўся. Мы можам дакараць яго як палітыка, але не можам сказаць, што ён злачынца. Трэба адзначыць, што не ІНП першым атакаваў асобу Тарашкевіча. Першая атака прыйшла з боку ідэолага афіцыйнага Менску, рэдактара «Советской Белоруссии» Паўла Якубовіча, які дакараў Тарашкевіча ў тым, што нібыта ён выдаў 160 чалавек на смерць НКВД. І гэты выпад вельмі агідны. А тое, што Тарашкевіча дзевяць месяцаў катавалі, і ў ім ужо нельга было пазнаць чалавека, а гэта быў кавалак чорна-сіняга цела, калі яго закінулі ў келлю, як пра гэта ўспамінае адзін з вязняў. То пра гэта спадар Якубовіч чамусьці не ўспомніў. І тут аказалася, што да цкавання Тарашкевіча далучыўся польскі Інстытут нацыянальнай памяці. Коркуць адзначае, што Сталін забіваў сваіх. Але ж нельга ставіць Тарашкевіча побач з чэкістамі, якія самі сябе мардавалі ў чарговых хвалях тэрору. У чацвер адбылося пасяджэнне праўлення Беларускага гістарычнага таварыства. Мы рыхтуем заяву супраць дэкамунізацыі асобы Тарашкевіча.

**РР:** — Вядома, што камісія Коркуця працуе зараз над біяграфіяй Якуба Коласа.

**Алег Латышонак:** — Тут можна толькі развесці рукамі. Кім ёсць спадар Коркуць, каб дэкамунізаваць Якуба Коласа?! Ніхто ўжо не будзе памятаць пра гэтую дэкамунізацыю, а Колас назаўсёды застанецца нашым нацыянальным паэтам. Тарашкевіч, безумоўна, постаць трагічная, складаная, але ён акупіў сваёй смерцю ўсе свае памылкі (...).

Гутарыла **Валянціна ЛАЕЎСКАЯ**
Беларускае Радыё Рацыя

Ніжэй прыводзім біяграм Браніслава Тарашкевіча, апрацаваны прафесарам Алегам Латышонкам на патрэбы абскарджэння ад рашэння падляшскага ваяводы.

**Bronisław TARASZKIEWICZ** urodził się 20 stycznia 1892 roku w zaścianku Maciuliszki na Wileńszczyźnie w katolickiej rodzinie chłopskiej. Podczas nauki w gimnazjum w Wilnie należał do patriotycznego Zjednoczenia Młodzieży Polskiej „Wyzwolenie". Z czasem zbliżył się do środowiska białoruskiego czasopisma „Nasza Niwa".

W latach 1911-1914 studiował na Uniwersytecie Petersburskim na wydziale historyczno-filologicznym. Na ostatnim roku studiów zaczął publikować w czasopismach białoruskich. Po ukończeniu studiów został na uczelni i pracował nad napisaniem gramatyki języka białoruskiego. W 1917 r. wstąpił do Białoruskiej Socjalistycznej Hromady. W 1918 r. wydał w Wilnie pierwszą „Białoruską gramatykę dla szkół", która dała solidne podstawy białoruskiemu językowi literackiemu i przez długie lata służyła jako podręcznik. W 1919 r. pracował jako wykładowca w Instytucie Pedagogicznym w Mińsku, lecz został aresztowany przez władze bolszewickie. Po uwolnieniu znalazł się w Wilnie, gdzie stanął na czele propolskiej Centralnej Białoruskiej Rady Wileńszczyzny i Grodzieńszczyzny. Pod koniec roku powrócił do Mińska i przez jakiś czas wykładał w Słucku.

W czasie bolszewickiego najazdu w 1920 r. ewakuował się do Warszawy. Tutaj wziął udział w przygotowaniach do tzw. buntu gen. Lucjana Żeligowskiego, a po zajęciu Wilna kierował oddziałem oświaty białoruskiej w rządzie Litwy Środkowej. W 1921 r. został dyrektorem gimnazjum białoruskiego w Wilnie. Po przyłączeniu Litwy Środkowej do Polski w 1922 r. wybrano go na posła na Sejm Rzeczypospolitej Polskiej, w którym objął kierownictwo Białoruskiego Klubu Poselskiego. W czasie tej kadencji Sejmu prowadził politykę współpracy z władzami polskimi, wierząc w możliwość autonomii dla ziem białoruskich Rzeczypospolitej. Był współzałożycielem Towarzystwa Białorusko-Polskiego w Wilnie, za co został odsunięty od kierownictwa Białoruskiego Klubu Poselskiego przez posłów niechętnych współpracy z Polakami. W 1925 r. stworzył Białoruską Włościańsko-Robotniczą Hromadę. Hromada domagała się prawa do samostanowienia narodu białoruskiego i stawiała sobie za cel zjednoczenie ziem białoruskich w przyszłości, ale przede wszystkim domagała się reformy rolnej, oświaty w języku białoruskim i zaprzestania osadnictwa wojskowego. Partia ta już wkrótce miała ponad 100 tysięcy członków i przybrała charakter masowego ruchu narodowego. Zaniepokojone szybkim rozwojem Hromady władze polskie rozwiązały tę partię w 1927 r., do czego przyczyniła się jej współpraca z Komunistyczną Partią Zachodniej Białorusi, do której Taraszkiewicz należał potajemnie od 1926 r.

Bronisława Taraszkiewicza aresztowano w styczniu 1927 r. i skazano na 12 lat pozbawienia wolności. Przedterminowo zwolniony z więzienia w maju 1930 r. zamieszkał w Wolnym Mieście Gdańsku, lecz nie przestał angażować się w działalność polityczną na terenie Polski. Władze polskie aresztowały go ponownie podczas przejazdu przez terytorium polskie w lutym 1931 r. Tym razem skazano go na 12 lat więzienia. Podczas pobytu w więzieniu przełożył na język białoruski „Pana Tadeusza" Adama Mickiewicza oraz „Iliadę" Homera.

W sierpniu 1933 r. władze sowieckie odrzuciły opracowaną przez Taraszkiewicza gramatykę i ortografię języka białoruskiego, zamieniając ją gramatyką i ortografią służącą sztucznemu zbliżeniu białoruskiego języka literackiego do języka rosyjskiego. We wrześniu tego samego roku władze sowieckie wymieniły z władzami polskimi więzionego na Sołowkach białoruskiego dramaturga i reżysera Franciszka Alachnowicza na Taraszkiewicza, którego tryumfalnie powitano w Mińsku, lecz nie pozwolono zamieszkać na Białorusi. Pracował jako kierownik oddziału Polski i krajów nadbałtyckich Międzynarodowego Instytutu Rolnego w Moskwie.

6 maja 1937 r. NKWD aresztowała Bronisława Taraszkiewicza jako „agenta polskiego Sztabu Generalnego" w sfabrykowanej sprawie „Białoruskiego Centrum Narodowego". Oficjalnie został rozstrzelany 29 listopada 1938 r. w więzieniu w Mińsku. Prawdopodobnie jednak został zakatowany na skutek podczas brutalnego „śledztwa".

Osoba Bronisława Taraszkiewicza jest symbolem tragedii narodu białoruskiego, pozbawionego swojej państwowości i zmarnowanej szansy na rozwiązanie kwestii białoruskiej w oparciu o Polskę, jak również losu białoruskiej inteligencji wymordowanej przez stalinowskich oprawców.

# Браніслаў Тарашкевіч паміж фашызмам і камунізмам

Польскі чыноўнік Мацей Коркуць, які адказвае за перайменаваньне вуліц і ўжо «канчаткова закрыў пытаньне» з вуліцай Браніслава Тарашкевіча, называе яго «сымбалем злачынных таталітарных ідэалёгій». Гучыць страшнавата, асабліва калі Тарашкевіча для нагляднасьці параўноўваюць зь Дзяржынскім.

Вядома, унутраная справа палякаў, як ім называць свае вуліцы. Але як называць Тарашкевіча — гэта ўжо непасрэдна тычыцца і нас.

Увесь «камунізм» Тарашкевіча быў барацьбой за беларускую ідэнтычнасьць супраць гвалтоўнай паланізацыі. Выглядае, што яму дагэтуль ня могуць дараваць ні выступаў у польскім сэйме, ні таго, што за пару гадоў стварыў і ўзначаліў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду — самую масавую беларускую арганізацыю ў гісторыі, якая налічвала 100 тысяч чальцоў.

Не камунізм, а беларушчына Тарашкевіча цьвеліць вока пану Коркуцю. Дастаткова сказаць, што і ў БССР яшчэ за маёй памяцьцю Тарашкевіч быў пад забаронай. Ня кажучы пра тое, што камуністы яго забілі. Нянавісьць да яго была настолькі моцнай, што нават ня проста забілі. Ягонае зьнявечанае да паўсьмерці цела энкавэдысты цягалі па камэрах, каб (зноў жа, для нагляднасьці) паказваць іншым вязьням (яго ўсе ведалі, ён быў бясспрэчным аўтарытэтам у Беларусі) — вось табе сам Тарашкевіч, ці хочаш сабе такога лёсу? Паводле дакумэнтаў ён ужо даўно быў расстраляны.

Тарашкевіч выкарыстоўваў рэаліі менавіта для адстойваньня беларушчыны. Зразумела, што ніякага таталітарызму ў ягоных перакананьнях не было. І тое, што ў нашы дні адна з паважаных і прызнаных у сьвеце масонскіх ложаў носіць імя Браніслава Тарашкевіча (ён быў масонам) сьведчыць пра гэта.

У мяне няма ілюзіяў наконт пана Коркуця, які перайменоўвае вуліцы. Няма ілюзіяў і наконт выказваньняў Тарашкевіча пра «польскі фашызм». На той час я адносіны польскіх «санатараў» да ўсяго беларускага інакш і не назваў бы. Тут не ў камунізьме справа, а ў палітыцы польскай дзяржавы.

Што да «камунізму» ці «таталітарызму» Тарашкевіча, дык трэба казаць не пра членства ў партыі і не пра ацэнкі польскай палітыкі, а перадусім пра вядомы прынцып «Не рабі іншаму таго, чаго не хацеў бы сабе». Тарашкевіч не рабіў.

**Сяргей Дубавец, Радыё Свабода**
**16 лістапад 2017**

# Летняя школа беларусістыкі (ч.2)

**Летняя школа беларусістыкі апрача цікавых, менш цікавых і гэтых прапушчаны заняткаў, перш за ўсё можа навучыць, або прынамсі схіліць да рэфлексіі наконт значэння і бясспрэчнай вартасці беларускай мовы. Яркім доказам гэтага з'яўляюцца самі ўдзельнікі, якія з'язджаюць з розных куткоў свету, каб пахіліцца над мовай князя Вітаўта, Скарыны, Касцюшкі ці гурту «Мроя», над мовай Белавежскай пушчы і Полацка. Прыехалі людзі са Злучаных Штатаў, Іспаніі, вялікай Расіі ці з гіганта сусветнай гаспадаркі — Кітая. Што цягне іх на Беларусь, яе першабытнасць, ці ялавасць?**

### Аляксандр Блешчык

Мову Янкі Купалы можна пачуць у самым сэрцы Расіі. Менавіта ў Екацярынбургу, дзякуючы актыўнасці Аляксандра Блешчыка ахвотныя могуць вывучаць мову суседзяў ці сваіх продкаў. Школа



беларускай мовы і культуры працуе тут ужо з 2013 года і мае дзясяткі выпускнікоў. Яе дырэктарам і настаўнікам з'яўляецца Аляксандр Блешчык, які сёлета сам удзельнічаў у Міжнароднай летняй школе беларусістыкі ў Мінску.

— Я прыехаў на так званую разведку (*смех*). У наступным годзе хацеў бы ў гэтую школу паслаць сваіх вучняў. Раней не было ніякай магчымасці, каб вывучаць беларускую мову ў Екацярынбургу. Я вывучыў яе самастойна. У мяне беларускія карані і мне было цікава. Спачатку мне здавалася, што яна нічым не адрозніваецца ад рускай, потым я зразумеў, што там ёсць не толькі фанетычныя адрозненні, але і своеасаблівая лексіка. Пасля пяці гадоў вучобы вырашыў наведаць Беларусь. Тады таксама зразумеў, што тут беларускай мовай і не пахне. Усё-такі з часам знайшоў тут аднадумцаў і сяброў.

### Аксана Орленка

Вучыцца беларускай мове, каб адкрыць для сябе іншы свет. Аксана Орленка працуе на Львоўскай палітэхніцы на кафедры лінгвістыкі. Падчас частых паездак на Беларусь, а таксама пры



дапамозе літаратуры вывучыла мову суседзяў. Дзякуючы таму не толькі можа развіваць сваю навуковую дзейнасць, але і зразумець культуру, абрады і рэаліі Беларусі.

— У маіх навуковых працах я займаюся лінгвістыкай украінскай мовы, але таксама захапляюся іншымі славянскімі мовамі: сербскай, польскай. А зараз вывучаю таксама беларускую мову, каб пашырыць мае навуковыя магчымасці і лепш зразумець свет. Апрача таго маю хлопца з Беларусі, свядомага гісторыі і беларускамоўнага.

### Хаймэ Гарсія Чапара

З-за салідарнасці з Беларуссю пачаў вывучаць беларускую мову. Хаймэ Гарсія Чапара жыве ў іспанскай Малазе. Прысвяціў тры гады на спазнанне мовы, якую мала хто ведае ў яго краіне. Сёння сам арганізуе беларускае жыццё ў Іспаніі, а таксама падарожнічае па Беларусі, каб лепш спазнаць яе аблічча. Хаймэ Гарсія Чапара пры падтрымцы беларускай амбасады ў Іспаніі супольна з сябрамі сарганізаваў курсы беларускай мовы. Сустрэчы пачаліся ўжо з верасня.



— Я звязаўся па скайпе з дзяўчынай з Беларусі. Яна мела мяне вучыць рускай мовы, я яе — іспанскай. Аднойчы яна сказала, што вось на Беларусі мала людзей размаўляе па-беларуску. Мне стала прыкра, што тут не захоўваюць сваёй мовы. І так, карыстаючыся сайтамі, слоўнікам і скайпам, я пачаў вывучаць беларускую. Беларуская мова яшчэ не адкрытая ў нас. У Іспаніі Беларусь вельмі моцна асацыюецца з Расеяй. Калі я расказваў сябрам, што буду вывучаць беларускай мове, яны насамрэч не ведалі, што такая існуе. Мая мама таксама ў гэтым прызналася, што не ведала б нічога ані пра Беларусь, ані пра беларускую мову, калі б я не пачаў яе вывучаць.

### Канстанцін Драздоў

Гісторык і навуковец Канстанцін Драздоў жыве ў Маскве, дзе самастойна вывучае беларускую мову. Ён сам веданне мовы лічыць знакам павагі да суседзяў.



— Я прыехаў, каб пасядзець у архівах. Але адначасова хацеў таксама неяк зразумець і культуру, таму вырашыў пры нагодзе запісацца ў школу. Я лічу, што ўжо даўно ў Расеі трэба адмовіцца ад імперскіх замашак. Дагэтуль жа ў Расеі ёсць такія, хто лічыць, што Беларусі няма, што гэта ўсё адзін народ. А ўжо больш 30 гадоў жывём. Розныя дзяржавы, розныя народы. Мы заўсёды былі суседзямі. Любую мову, як польскую, украінскую, расейскую, так і беларускую трэба вывучаць. Хоць ты і расейскамоўны, але трэба лепш ведаць беларускую мову і гісторыю.

### Ева Венелля

Ева прыехала са Злучаных Штатаў, дзе зараз жыве і працуе. Вывучала тут веды аб джазе і ахове прыроды. Менавіта захапленне Белавежскай пушчай прывабіла яе ў Беларусь. Той, на яе думку, магутны лес можна абняць праз веданне



мовы і культуры Беларусі. Летняя школа беларусістыкі была адначасова нагодай, каб пабачыць, якія законы рэгулююць ахову прыроды і жывёлы ў гэтай дзяржаве.

— Ужо ў час афармлення візы сустрэлася з незразумелымі праблемамі і сапраўды абыякавым падыходам да чалавека. Самой школай я вельмі расчараваная — дэзарганізацыя, незразумелая непрыхільнасць... Паспрабую зразумець пушчу, але з другога боку — цераз Падляшша.

### Хан Сяў Е

Хан з'яўляецца выкладчыкам расейскай мовы на Другім пекінскім універсітэце. На школу беларусістыкі ў Мінск прыехаў са сваімі студэнткамі, якія ўзялі лектарат беларускай мовы.

— У Пекіне, у Другім пекінскім інстытуце замежных моў на факультэце рускай мовы для студэнтаў, якія вывучаюць рускую мову, заснавалі спецыяльнасць „беларуская мова". Беларускую могуць



яны абраць па жаданні. Многія студэнты выбіраюць.

Паколькі жыхары развітага Кітая вывучаюць беларускую мову, можа гэта напрамак, які ў будучыні гарантуе нейкае і эканамічнае развіццё. Але магчыма кітайцы не толькі эканамічна нас апярэджваюць. У час вечаровых гутарак пасля заняткаў Хан праспяваў старадаўнюю кітайскую песню, якая гаворыць, што людзей з нечым звязвае чырвоная нітка. Каб зразумець чаму і не адчуваць сябе зняволеным, трэбы запрашаць дамоў месяц у час поўні. Ён можа дапамагчы растлумачыць гэтую містычную прывязанасць і адчуць сябе свабодным. Калі верыць словам песні, Скарына з кітайскім тварам ужо не такі смешны.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

## Дэмаграфія Боцькаўскай гміны

Боцькаўская гміна знаходзіцца ў паўднёвай частцы Падляшскага ваяводства і ўваходзіць у склад Бельскага павета. Займае яна 17% тэрыторыі павета. Плошча яе 232 квадратных кіламетры. Гэта тыпова сельскагаспадарчая гміна. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 73% плошчы гміны, лясы — 20%.

У Боцькаўскай гміне 36 мясцовасцей ды 38 салэцтваў. У іх пражывае 4570 чалавек (у Боцьках паўтары тысячы). Шчыльнасць насельніцтва 20 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 95 жанчын. Прадстаўнікоў мужчынскага полу нашмат больш чымсьці дзяўчат і жанчын ва ўзроставых групах 10—14 гадоў ды 15—19 і 25—29. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын у тры разы больш чымсьці мужчын. Гміна абязлюджваецца. У мінулым годзе ў гміне нарадзілася 11 дзяцей ды памерлі 53 чалавекі. Пажаніліся 15 пар.

У 2016 годзе „залатое вяселле" згулялі 23 пары, у якіх муж і жонка пражылі з сабою 50 гадоў. Яны дасталі медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё" ад прэзідэнта РП. Сёлета медалі ўручыла юбілярам войт гміны Дарота Кендра-Пташынская. Атрымалі іх пары: Ніна і Пётр Супронюкі, Аліна і Ян Каральчакі, Люба і Сяргей Хмуры, Галіна і Рыгор Попікі, Марыя і Сёній Тэрэнтюкі, Зенобія і Мікалай Гулі, Галена і Ян Алексеюкі, Яніна і Юзэф Талвінскія, Анна і Антон Сакалоўскія, Юзэфа і Мікалай Талвінскія, Мар'янна і Чэслаў Антошукі, Барбара і Станіслаў Кошы, Яніна і Ян Волінскія, Яніна і Тадэвуш Коцы, Лідзія і Ян Кошы ды Тэрэса і Здзіслаў Жары. Медалі за 60 гадоў супольнага шлюбнага жыцця (у іх дыяментавае вяселле) атрымалі Анна і Ян Жохі ды Марыя і Пётр Якімюкі.

Урачыстае мерапрыемства адбылося ў Гмінным асяродку культуры ў Боцьках. У мастацкай частцы выступіў калектыў сеніёраў „Ружы восені". Рэдакцыя „Нівы" віншуе юбіляраў і зычыць далейшых шчаслівых гадоў супольнага жыцця ў добрым здароўі і ў паважанні сямейнікаў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Разам праз жыццё

Улады Чаромхаўскай гміны Гайнаўскага павета не забываюць пра тых жыхароў іхняй гміны, якія як шлюбныя пары пражылі разам пяцьдзясят гадоў. У мінулым годзе медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё" атрымала шэсць пар і сёлета восем. Як год таму так і сёлета было шампанскае, кветкі і падарункі.

10 лістапада г. г. у Гміннай управе ў Чаромсе (яна знаходзіцца ў прыгожым будынку) войт Міхал Врублеўскі і загадчыца ЗАГСа Аліцыя Пытэль уручылі медалі ад прэзідэнта РП Галіне і Мікалаю Міхалюкам, Марыі і Сяргею Назарукам, Марыі і Антону Раманчукам, Марыі і Мікалаю Кузьмам, Марыі і Пятру Бубелям, Марыі і Гарыёну Алексеюкам ды Галене і Мар'яну Пачускім. Не прыехалі на юбілейную ўрачыстасць Марыя і Ян Вішанкі. Ім уручаць медалі пры іншай нагодзе.

Рэдакцыя „Нівы" зычыць усім парам „Многае лета" („Sto lat") і наступных прыгожых гадавін.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Любімыя дзіцячыя песні

Шматлікія даследаванні паказваюць, што песні адыгрываюць важную ролю ў нашым развіцці. Часам можа здавацца, што для нас, беларусаў, гэта асабліва важная традыцыя. Свята, розныя ўрачыстасці ці нават будзённую работу суправаджалі менавіта песні. Паколькі супольнае спяванне было так важным для нашых продкаў, файна, што такая традыцыя вяртаецца і ў школы. Менавіта ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку 16 лістапада прайшоў Конкурс беларускай песні, зладжаны настаўніцай беларускай мовы Алінай Ваўранюк.

— Вывучаю беларускую мову і спяваю па-беларуску. Гэта для мяне прыносіць радасць, — адзначыў Алік Хаманюк пасля свайго выступу. Сам выбраў даволі амбітную песню, бо даволі доўгую, пра Гномікаў. Зараз пасля яе выканання адзначыў, што выступ лічыць удалым і разлічвае на высокае месца.

Варта дадаць, што вучні галоўным чынам выбіралі вясёлыя сучасныя дзіцячыя песні. Гэта сведчыць аб тым, што ідуць з духам часу і адкрываюць для сябе новыя музычныя прапановы беларускіх музыкаў. Мне самой было цікава пачуць тыя песні, якіх у маім маленстве яшчэ не было. Рытм, рыфма і запамінальная мелодыя — за гэта не можна тых песенек не любіць. Вучні з I-VI класаў мелі свабоду, каб самому выбраць твор, які ім найбольш падыходзіць. Міхаліна Косціна выступіла з песняй на словы вядомага сучаснага пісьменніка Андрэя Хадановіча «У грыбы». Выбар таксама не быў выпадковы.

— Я калісьці была на спектаклі, у якім выступаў мой старэйшы брат, Кандрат. Тады ўпершыню пачула гэтую песню і яна мне зразу вельмі спадабалася, — патлумачыла Міхаліна.

Кожны з выступоўцаў нечым іншым кіраваўся пры выбары песні. Віця Паўлоўскі выбраў самую вясёлую для сябе.

— Буду спяваць пра пачатак школьнага года, — адзначыў Віця.

На пытанне ці любіць хадзіць у школу і вучыцца, адказаў упэўнена: «Так».

Некаторыя вучні адмыслова пераапраналіся, каб аддаць клімат песні, а калі спявалі пра ласункі, на гледачоў ляцелі каляровыя цукеркі.

Ніка Паўлоўская свой выступ абмежавала да мінімуму — нават мелодыя не была ёй патрэбна, каб забраць гледачоў у нейкую даўнюю краіну. Можа ў гэтую выдуманую намі Беларусь.

Конкурс беларускай песні ў «чацвёрцы» напэўна даказаў, што спяванне гэта добры спосаб на выражэнне маленькага чалавека.

**Тэкст і фота Улі Шубзды**








Міхаліна Косціна

Алена ЦЕРАШКОВА

**А**
Акула Акуліна
Хвастом мяшала гліну.
Зляпіла ў панядзелак
Гарлач і пяць талерак.
Стамілася акула:
За працаю заснула.
А вы, сябры, глядзіце:
Акулу не будзіце!

**Б**
Будаўнік бабёр Барыс
Белую бярозу грыз.
Спрабаваў абгрызці дуб -
Забалеў бабрыны зуб.
Будзе бабранят вучыць:
Трэба зубы берагчы!

**В**
Вараваты верабей
Па празванні Верамей
З рук у разявакі-Валі
Выхапіў кавалак вафлі.
Вафлю вор звалок дахаты,
Частаваць вераб'янятак.

**Г**
Гусь гагоча: — Ге-ге-ге!
Паглядзі на грака:
На гародзе па градзе
Бегае ды ў фраку!
Гэй, пераапраніся, грак!
Гэтак зацягаеш фрак.

**Д**
Дзінь-дзень, добры дзень!-
Дробны дождж ідзе.
Дождж ад даху да падмурка
Адмывае хату Юрку,
Даньку, Дзімку і Дануце.
Выйдзе сонца
— чыста будзе!

**Е**
Селі пад елкамі белыя цені.
Цені аднекуль
прынеслі пяльмені.
Ледзь развіднела
ў восеньскім лесе,
Цені пяльмені на елцы
развесілі.
Вельмі пацешыўся
белы мядзведзь:
Елка з пяльменямі
— смешна глядзець!

**Ё**
Сёння Лёня наш вясёлы!
Сёрбаў па дарозе ў школу
Ён з бутэлечкі зялёнай
Ёгурт цёпленькі, салёны!
Ёгурт па рэцэпце нашым -
Зёлкі, соль ды сыракваша!

**Ж**
Раз пад ружай ад дажджу
Быў схаваўся жоўты жук.
Ружа — гожая паненка,
У ёй ружовая сукенка.
Жук ад паху аж дрыжыць:
— Можа, тут ужо і жыць?

УВАГА КОНКУРС!
№ 48-16

**Не каса, але кашу.**
**І не звер, але ўкушу.**
**У метале альбо ў косці —**
**Амалоджваю кагосьці.**
**Б.....**

**(У. Мацвеенка)**

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 3 снежня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 45: паштовая скрынка. Узнагароды, беларускія кніжкі, выйгралі** Шыман Радзівіл, Мікалай Троц, Наталля Габрусь **з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

**З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».**

**У Амерыцы**

Сталася так, што, прыехаўшы з Парыжа, Тадэвуш пражыў на радзіме вельмі мала. Якраз у тым часе Паўночная Амерыка ваявала з Англіяй за сваю незалежнасць. Касцюшка сеў на карабель і выправіўся за акіян. У Амерыцы ён стаў у шэрагі змагароў за свабоду і дзевяць гадоў ваяваў на іх баку.

Ён удзельнічаў ва ўсіх буйных бітвах з англічанамі, атрымаў чын генерала і стаў ганаровым грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі.

У тым часе Тадэвуш Касцюшка найбольш праславіўся як таленавіты ваенны інжынер. Пад яго кіраўніцтвам пабудаваны некалькі моцных фартэцаў. Яны дапамаглі амерыканцам атрымаць важныя перамогі.

Самая магутная з гэтых фартэцаў была ўзведзеная ў Вэст-Пойнце. Яна стаяла на рацэ Гудзон. Калі англічане не здолелі падысці да Вэст-Пойнта па вадзе, Касцюшка «замкнуў» раку велізарным жалезным ланцугом даўжынёю на паўкіламетра.

Наш знакаміты суайчыннік сябраваў з Томасам Джэферсанам, які склаў Дэкларацыю незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі. За выдатныя заслугі ў змаганні за свабоду Касцюшку ўзнагародзілі ордэнам Цынцыната. Гэтую высокую ўзнагароду нашаму земляку ўручыў сам Джордж Вашынгтон, першы амерыканскі прэзідэнт. Ордэн Цынцыната атрымалі ўсяго тры іншаземцы.



Амаль усю зробленую ім у Амерыцы маёмасць Касцюшка перадаў свайму сябру Джэферсану. Ён папрасіў, каб той пусціў грошы на выкуп чарнаскурых рабоў.

Калі Касцюшка вярнуўся дадому, у Беларусі адбываліся трывожныя падзеі. Расея, Аўстрыя і Прусія ўжо дзялілі Рэч Паспалітую і ўводзілі на захопленых землях свае парадкі. Беларусы, палякі, літоўцы — усе, хто любіў Бацькаўшчыну, не маглі змірыцца з гэтым здзекам.

*(працяг будзе)*

Грышка ВАСІЛЮК
Супрасль, Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Жыццё

Ён нарадзіўся.
Ён танцаваў.
Ён радаваўся.
Ён плакаў.
Ён быў здаровы.
Ён хварэў.
Ён быў старэнькі.
Ён памёр.



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Шчодрасць

Сярод розных гісторый прыгадваюць, як нехта прыйшоў да цара Аляксандра*, які быў надта шчодры, і папрасіў у яго міласціны. І цар Аляксандр падарыў яму горад.

Абурыліся князі і пытаюць у цара:

— Чаму ты так шчодра яго абдарыў? Гэты чалавек не годны такога горада?

А цар Аляксандр кажа:

— Мабыць, ён сапраўды не годны такога падарунку, але мне падабаецца абдорваць прыгожымі рэчамі, таму што я надта шчодры.

* **Маецца на ўвазе цар Аляксандр Македонскі**

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Рыгор Барадулін

## Заспаная раніца мжыстая

Заспаная раніца мжыстая,
На фарбы і гукі скупая.
Нібыта сцяжынаю мшыстаю,
Прыціхлай зямлёю ступаеш.

І вёдры прыглушана бразгаюць
Каля адсырэлае студні,
Лісцёваю дыхае брагаю,
Пакутуе восень застудай.

Цыбатай нагой жураўлінаю
Імшарамі верасень крочыць.
Ад кіслых прысмак журавінавых
Заплюшчыла сонца вочы.

Цвітуць успаміны верасам.
Няяснае мроіцца-сніцца.
І моцна жадаецца-верыцца,
Што ўсё да паўдня праясніцца.

## Польска-беларуская крыжаванка № 48-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44-17:**

Слонік, лук, юс, сіла, будынак, знахар, но, кат, жураўлі. Людзі, Лі, Баку, кухар, дата, сыр, клін, ял, улан, какос.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Аляксандра Анікевіч, Мар'юш Радзецкі** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Вікторыя Семянюк, Марцін Панасюк, Якуб Красоўскі, Марыя Кардзюкевіч, Клаўдзія Дыбацкая, Дар'я Лужэцкая** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Грышка Гопш** з Вэрстока, **Наталля Нікалаюк** з Арэшкава. Віншуем!



# «Бежанцы»

## Юрыя Каліны ў Гайнаўцы

**Фільм «Бежанцы 1915-1922» Юрыя Каліны, выпушчаны тэлеканалам «Белсат», 12 лістапада быў запрэзентаваны публіцы ў Гайнаўскім доме культуры. Хутка пасля прэм'ернага паказу 5 кастрычніка ў Беластоку гэты фільм на Міжнародным фестывалі «Пакроўкіно» ў Кіеве быў прызнаны журы самым лепшым гістарычным фільмам фестывалю. У фільме змястоўна і з выкарыстаннем цікавых рэканструкцыйных прыёмаў былі запрэзентаваны адны з самых трагічных падзей у жыцці нашых продкаў перыяду Першай сусветнай вайны. Сустрэчу наладзіла гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, якое ў 2015 годзе вельмі ўрачыста адзначыла сотую гадавіну бежанства.**

На прэзентацыю фільма прыбыло многа гайнавян, якім цікавыя тэма бежанства і дакументальныя стужкі Юрыя Каліны. У фільме «Бежанцы 1915-1922» вельмі важныя выказванні непасрэдных сведак бежанства, якіх удалося запісаць Юрыю Каліну, калі тэма бежанства стала агучваццa нашым тыднёвікам. Сведкі, тады яшчэ дзеці, запамяталі сцэны з розных этапаў бежанства і іх успаміны папоўнілі дакументальную стужку. Фільм «Бежанцы 1915-1922» створаны часткова на аснове гісторыі сям'і Юрыя Каліны, якога прабабуля Сафія выехала з Кашалёў у казацкую станіцу Стэпное Мціоніна Саратаўскай губерні. Нарадзіла там дачку, якую назвала Надзеяй і разлічвала, што вернецца да яе муж Якуб, які ў расійскай арміі змагаўся на фронце і, на жаль, загінуў. У фільме распавядаецца, што ўцякаць у глыб Расіі вымушаны былі амаль тры мільёны жыхароў заходніх губерняў Расійскай імперыі, з якіх трэцяя частка не вярнулася дамоў. Многія з тых, якім пашанцавала вярнуцца дамоў, мусілі адбудоўваць спаленыя жылыя і халодныя будынкі, наймацца на працу далёка ад дому і паволі адбудоўваць свае гаспадаркі, пра што змястоўна распавядае фільм Юрыя Каліны.

— Варта адзначыць, што ў сотую гадавіну бежанства, два гады таму, на Падляшшы прайшлі некалькі навуковых канферэнцый, рэканструкцыя выезду ў бежанства, выйшлі з друку некалькі кніг пра бежанства. Адзначэнне сотай гадавіны пачатку бежанства дало штуршок для яго аналізу на розных узроўнях і яно будзе прадаўжацца, — заявіў рэжысёр фільма Юрый Каліна.

Фільм схіліў сабраных вярнуцца ўспамінамі да сваіх продкаў, якія таксама падаліся ў бежанства.

— Фільм «Бежанцы 1915-1922» трапна паказвае бежанства і яго трагедыю, якая спаткала наша насельніцтва. Перад надыходам фронту псіхоз страху ахапіў нашых людзей і яны сталі масава збірацца да выезду. Пра лёс маіх продкаў у час бежанства можна напісаць кнігу, а такіх лёсаў было мноства, — сказаў протаіерэй Юрый Харытанюк, ад нядаўна вікарны святар Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, ураджэнец Старога Беразова.

— Мой дзядуля добра ўспамінаў пабыўку далёка ад дома і людзей, якія яго там прымалі. Прывёз з Расіі кніжку з казкамі, якія расказваў мне, а калі я навучыўся сам чытаць, стаў іх чытаць самастойна, — заявіў стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, які паінфармаваў, што Гайнаўскае староства прыступіла да абвешчанага Еўрапейскай камісіяй конкурсу і з гэтай крыніцы ўдалося здабыць сродкі на рэалізацыю праекта датычнага бежанства (пра які больш падрабязна можна даведацца ад каардынатара праекта Люцыны Ляўчук з Гайнаўскага староства).

На прэзентацыю фільма пра бежанства прыбылі таксама бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, намеснік гайнаўскага старасты Ядвіга Дамброўская, самаўрадавыя радныя, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, дырэктары і кіраўнікі іншых самаўрадавых устаноў.

Юрый Каліна — публіцыст і рэжысёр дакументальных фільмаў, які дваццаць два гады свайго прафесійнага шляху спалучыў з Польскім тэлебачаннем. Зараз з'яўляецца кіраўніком філіяльнай рэдакцыі тэлеканала «Белсат» у Беластоку. Вядомы перш за ўсё як аўтар шматлікіх рэпартажаў і дакументальных фільмаў, якія здымаў у Польшчы, Беларусі і іншых краінах Еўропы. З іх ліку самыя вядомыя — «Чарнобыльцы», «Ад мору і голаду», «Апошні дыктатар Еўропы», «Балада аб Меляшках», «Партызанская школа», «Праваслаўныя манастыры ў Польшчы», «Архімандрыт», «Пад апекай святога Дзмітрыя», «Сейбіт», «Сярожа». Зараз прызнанне гледачоў здабывае наваствораны фільм «Бежанцы 1915-1922».

— Бежанства захоўваецца ў маім жыцці з дзяцінства. Мы з сябрамі гулялі папяровымі грашыма, якія прывезла мая сям'я з бежанства. Закапаў я іх як скарб, пасля забыў аб гэтым і, калі адкапаў, аказалася, што яны знішчалі ў зямлі, — успамінаў Юрый Каліна, які апошнімі гадамі запісваў размовы з дзяцьмі і ўнукамі сведак бежанства.

Рэжысёр размаўляў таксама з гісторыкамі, даследчыкамі бежанства, у тым ліку з Яўгенам Мірановічам з Беластока, Віталіем Карнялюком, Уладзімірам Ляхоўскім, Сяргеем Токцем і Генадзем Семянчуком з Беларусі, якіх выказванні змясціў у фільме. У Беларускім дзяржаўным архіве фатаграфій і фільмаў у Дзяржынску Юрый Каліна знайшоў кінахроніку 1918 года з Оршы аб уцекачах, якая з'яўляецца вельмі важным момантам у фільме. Пахвальныя словы трэба выказаць у адрас акцёраў — прафесійных і аматараў, якія ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы адыгралі сцэны з жыцця бежанцаў. У фільме пераплятаюцца яны з успамінамі нашых жыхароў, каментарыямі гісторыкаў і публіцыстаў, фрагментамі архіўных фільмаў. Усё гэта змешчана ў пяцідзесяціхвілінным фільме «Бежанцы 1915-1922», дзе апісанне трагедыі, якая сустрэла бежанцаў, папаўняецца многімі выказваннямі, як добра жылося бежанцам у Расіі і як сардэчна прымала іх у Расійскай імперыі мясцовае насельніцтва, якое дзялілася з уцекачамі сваім дабром.





Юрый Каліна адказвае на пытанні гледачоў

Зараз паяўляюцца выказванні, што даследаванне бежанства пачалося з 2015 года і тады пачалі публікавацца ўспаміны бежанцаў. Аднак успаміны бежанцаў сталі запісвацца журналістамі «Нівы» ўжо з 1958 года. У дзевяностых гадах, калі жылі яшчэ апошнія сведкі бежанства, рэдакцыяй была разгорнута праца па ўвекавечанні гэтай трагічнай падзеі і ў збор успамінаў уключыліся не толькі журналісты, але таксама карэспандэнты і чытачы «Нівы». Усе сабраныя імі і раней друкаваныя ў «Ніве» матэрыялы пра бежанства ўвайшлі ў выдадзеную ў 2000 годзе кніжку на беларускай мове «Бежанства 1915 года». Яна поўнасцю разышлася і ў сотую гадавіну пачатку бежанства, у 2015 годзе, кніга была перавыдадзена Праграмнай радай тыднёвіка «Ніва». Да другога выдання былі дабаўлены аповеды, запісаныя паля 2000 года і спіс бежанцаў з нашай тэрыторыі, якія жылі ў Томскай губерні. У першым выданні было змешчаных 155, а ў другім — 168 расказаў бежанцаў, якія з'яўляюцца незаменнай крыніцай для даследавання бежанства насельніцтва Беласточчыны ў час Першай сусветнай вайны. Прамоцыя перавыдадзенай кнігі «Бежанства 1915 года» прайшла, між іншым, у канцы 2015 года ў Гайнаўскім доме культуры. Была яна арганізавана разам са святкаваннем сотай гадавіны пачатку бежанства гайнаўскім аддзяленнем Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Тады многа гайнавян купіла новае выданне «Бежанства 1915 года» і пазнаёмілася з выставамі, прысвечанымі бежанству. Тады таксама адбылася прэзентацыя ранейшага фільма Юрыя Каліны «Бежанства», які быў зняты ў 1999 годзе, і спектакля «Бежанцы», пастаўленага тэатральнай групай Гайнаўскага белмузея, якой апякуецца акцёр і рэжысёр Іаанна Стэльмашук-Троц (яна выступіла ў фільме «Бежанцы 1915-1922»). Падчас абодвух спатканняў у ГДК — у канцы 2015 года і зараз, пры канцы 2017 года — з уступным словам выступіла настаўніца гісторыі Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы Нэля Шчука, у мінулым старшыня, а зараз скарбнік гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Расказала яна, між іншым, пра выезд сваіх продкаў у бежанства ў глыб Расіі, якія пасяліліся каля возера Байкал і пра куфар, які спадарожнічаў у бежанстве яе продкам, так як куфар сям'і Юрыя Каліны, паказаны ў фільме. Бежанства змястоўна апісана ў кнізе-альбоме Дарафея Фіёніка «Бежэнство. Дорога і повороты 1915-1922», якую выдала Аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах». У шыкарным выданні змешчана вялікая колькасць гістарычных каментарыяў, успамінаў, фатаграфій, дакументаў і кампакт-дыск, на якім запісаны, між іншым, арыгінальныя аповеды бежанцаў, пераплеценыя песнямі перыяду Першай сусветнай вайны. Бежанства апошнімі гадамі цікава апісана ў кніжках на польскай мове аўтарства Анэты Прымакі-Оніск «Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy», якая выступіла ў апошнім фільме Каліны, і Барбары Гаральчук «Nadzieja aż po horyzont». Тэма бежанства прэзентавалася ў займальных спектаклях, абмяркоўвалася падчас канферэнцый, а Музей малой айчыны ў Студзіводах наладзіў займальную рэканструкцыю выезду ў бежанства. Апошнім часам паявілася мода запісваць тое, што засталося ад аповедаў бежанцаў, якія перадаваліся іх дзяцьмі і ўнукамі, а зараз запісваюцца нават праўнукамі.

Гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія — адно з найстарэйшых мясцовых аддзяленняў брацтва — у верасні адзначала 25-годдзе сваёй дзейнасці. Пачынаючы з 1998 года, пабываў я на многіх мерапрыемствах і сустрэчах гайнаўскага брацтва, якія апісваў у «Ніве». Запамяталіся мне святкаванні ў гонар усіх святых Беларускай зямлі, калі падчас іх з дакладамі выступілі прафесар Антон Мірановіч і архімандрыт Гаўрыіл, распавядаючы пра паасобных святых. Гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія арганізавала праваслаўнае прадшколле, якое дзейнічае ў будынку Гайнаўскага белліцэя, ладзіла Фэсты здароўя, Куцці для адзінокіх гайнавян, арганізуе Ёлкі для дзяцей з Гайнаўкі, вядзе бібліятэку з духоўнай літаратурай, ладзіць паломніцтвы ў святыя месцы ў Польшчы, Беларусі і Украіне, а апошнімі гадамі пастаянна арганізуе пешаходнае паломніцтва з Гайнаўкі ў Пачаеўскую лаўру. Нядаўна гайнаўскае аддзяленне брацтва, якога дзейнасцю зараз кіруе Люцына Рушук і якога апекуном з'яўляецца айцец Марк Юрчук, арганізавала паломніцтва па Гайнаўцы з Дзмітрыеўскага прыхода ў Свята-Троіцкі прыход на святкаванне ў гонар іконы Божай Маці «Нечаканая радасць». Тады паломнікі прывіталі новага епіскапа Гайнаўскага Паўла.

Пасля прэзентацыі фільма Юрыя Каліны братчыкі арганізавалі салодкі пачастунак за кавай, гарбатай і напіткамі, пры якім прадоўжылі дыскусію пра бежанства.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# Вяртанне мінулага

Праслаўлены сваёй мудрасцю цар Саламон быў сцвердзіў: тое што было — зноў будзе, а тое што цяпер адбываецца — будзе адбывацца і ў будучыні. Вядома, што гэтыя паўторы агульныя, але ж яны з рознай ступенню падабенства паўтараюцца ў часе.

Вось гадоў пару не быў я ў Белавежы, а зараз завітаў і мяне задзівіла збудаванне на месцы былога чыгуначнага вакзала Белавежа-Палац. Быў жа там калісь, гадоў — скажам — пяцьдзясят, вакзальны будынак, які з ходам згортвання чыгуначнага руху таксама згортваўся, а пасля вываду адтуль цягнікоў, магчыма з роспачы — калі такое пачуццё ўласцівае творам рук чалавечых, стаў руйнавацца. І счэз зусім. І не падумалася мне, што спрацуе там Саламонава мудрасць. У Саламонаву эпоху не было інтэрнэту, але былі разумныя людзі, як і ўсялякія іншыя — гэтак жа як і цяпер, што неаспрэчна пацвярджае толькі што прыведзены тэзіс слаўнага цара.

Вось жа нырнуў я ў той інтэрнэт, здагадваючыся, што тое новае белавежскае збудаванне можа быць рэканструкцыяй даўняга вакзальнага будынка, які не ўстаяў перад рознымі ліхалеццямі, якія ў міжчасе пракаціліся не толькі па навакольных чыгунках. З інтэрнэтных фондаў паказаліся здымкі даўняга белавежскага царскага чыгуначнага павільёна.

У агульнасці абодва збудаванні выглядаюць аднолькава, аднак калі прыглядзецца больш дэталёва, то крыху адрозненняў паміж імі ёсць. Галоўная розніца ў тым, што франтон цяперашняга павільёна павернуты на поўдзень, калі царскі быў звернуты на поўнач — у бок тадышняга царскага палаца. Цяпер больш, здаецца, аздабленняў з імперскім двухгаловым арлом, затое няма шасціканцовых зорак Давіда — Саламонавага, у прыватнасці, бацькі... Тыя зоркі сведчылі, бадай, пра тое, што ў пабудову царскага павільёна ўключылася і яўрэйская абшчына; магчыма таксама, што і іншыя людзі прадпрымальніцкага духу.

Чаго ж маглі тут хацець прадпрымальнікі, так далікатна дагаджаючы цару? Падказку на гэтае пытанне дае расійскі пісьменнік Мікалай Ляскоў у сваім апісанні падарожжа ў Белавежу з 1862 года:

*— Наш Белосток — это литовский Манчестер, только шкода (жаль), железных дорог к нему нет, — сказал мой хозяин в заключение, после долгих рассказов о белостокской промышленности.*

*— Теперь и дорога железная есть, — отвечал я.*

*— Варшавская-то?*

*— Да.*

*— Э! Она нам никакая помощь.*

*— Отчего так?*

*— Что ж, из Варшавы и из Петербурга на наши фабрики возить нечего. Шерсть идет к нам на фурманах, через Пинск с Волыни, из Харькова.*

*— Зато в Петербург можете отправлять товар.*

*— Да это так; но нам нужно, чтоб шерсть ходче шла сюда.*

*— А разве бывает недостаток?*

*— Ой-ой! И какой еще. Закупят шерсть в Пруссию, а нового подвоза нет: жди его, пока по болоту прителепают на фурманах. Поганое дело с этим подвозом.*

*— Так когда железную дорогу на Пинск выстроят, стало быть, много лучше будет? — спросил я.*

*— Только и просим у Бога этой дороги.*

*А отчего именно в Белостоке разрослась фабрикация трико, так-таки и не добился. Впрочем, ведь нет же указаний, почему косы делают в Рыльске! Так, фон Филимонов там жил — оттого и косы делают, а здесь Захерт жил — оттого трико делают.*

Магчыма, што ветка ад Гайнаўкі ў Белавежу і была задумана як спалучэнне Беластока з Пружанамі і далей з Пінскам. Бо ж яе дацягнулі да Белавежы і там яна быццам спынілася; ад яе кароткую ветачку ў бок царскага палаца праклалі быццам крыху назад. Вось далейшыя разважанні Ляскова: *Благодаря зубрам, обратившим на Беловежскую пущу особое внимание правительства, последний остаток старинных литовских лесов прочно обеспечен от обращения его в германский лесок, в котором каждый пернатый жилец обязан иметь установленный германскими законами паспорт. Беловежская пуща сильно требует эксплуатации посредством правильных порубок и очистки от валежника и порослей, препятствующих ровному обсеменению. Но сбыть 500 десятин, ежегодно назначенных к вырубке, некуда, а о валежнике, заслоняющем от света нужные для зубра травы, и говорить нечего. Сбыт этот придет не прежде проведения через Беловежскую пущу железной дороги от вод днепровского бассейна к Петербургско-варшавской железной дороге, т.е. от Пинска, через Пружаны, до Белостока. Только с этою дорогой казна может надеяться получать со ста тысяч десятин беловежского леса более 25 000 рублей серебром, свыше которых ее доходы с Беловежской пущи не простирались в самые лучшие годы, когда по лесу производился выруб деревьев на выбор. Но дорога эта еще до сих пор только в изысканиях, которые хотя идут и очень удачно, но... по вехам, как известно, ничего не возят. А от вехи до рельса в ином крае, ой, ой, как еще далеко! Под рогатыми лбами беловежских зубров, конечно, нет мысли гордиться своим значением для Беловежской пущи, как, у всех рогоносцев не бывает мысли гордиться своим значением для личностей, эксплуатирующих эти рога; но, тем не менее, нельзя сомневаться, что зубры своим присутствием в Беловеже сохраняют этот громадный лес от истребления и будут виновниками введения в нем правильного лесного хозяйства, необходимого как в интересах казны, так и в интересах самой дичи, земля которой способна выдвинуть новый лес вместо старых, сгнивающих и валяющихся без всякой пользы насаждений...*





■ Вакзальны павільён век таму

Можа крыху даўгаватыя гэтыя цытаты з Ляскова, аднак яны здаюцца праліваць крыху святла на кшталт чыгуначных ліній у Белавежы. Вось быццам цары і згаджаліся ў нейкі момант пракласці чыгунку ў Пружаны, а пасля і раздумаліся, пабойваючыся за сваіх зуброў. А ў 1915 годзе з'явіліся сюды немцы, праклалі цераз першабытны лес іншыя чыгуначныя лініі і амаль дайшло *да обращения его в германский лесок, в котором каждый пернатый жилец обязан иметь установленный германскими законами паспорт...* А цяпер, здаецца, наконт Пушчы раздумаліся і самі немцы...

Пара вяртацца ў царскі павільён на белавежскім пероне. Чыгунку з Бельска ў Гайнаўку пабудавалі ў 1894 годзе цягам 58 дзён. Чыгунку з Гайнаўкі ў Белавежу праклалі тры гады пазней; у той жа час быў узведзены і царскі павільён. У 1903 годзе была пракладзена шаша з Бельска ў Пружаны. Энцыклапедыя Белавежскай пушчы: „Prace przy przedłużeniu kolei do Białowieży rozpoczęły się w maju 1897 roku, kiedy to stało się wiadomym, iż nowy imperator Rosji — Mikołaj II odwiedzi pod koniec lata tegoż roku białowieską rezydencję myśliwską. Z robotami uporano się w ciągu niecałych czterech miesięcy, pomimo iż nie stosowano żadnej mechanizacji. Przy budowie zatrudniona była także ludność okolicznych wsi, znajdując tutaj dobry zarobek. Tzw. rampę carską urządzono z przepychem. Skrzydła głównego budynku tworzyły pośrodku kwadratowy plac, nad którym wznosiła się kopuła z imperatorską koroną. Przed przyjazdem cara rampę dekorowano flagami i girlandami z zieleni oraz wyściełano dywanami. Budynki posiadały liczne rzeźbione zdobienia. Kanciaste dachy pokrywała blacha cynowa, z jasnobłękitnym odcieniem. Widoku dopełniał olbrzymi klomb, ubierany w uroczystych momentach w bardzo wyszukany sposób, z urządzeniem z kwiatów powitalnych napisów, herbu Romanowych itp. Prace te wykonywali ogrodnicy sprowadzani specjalnie z Warszawy. Miejscowa ludność często wykorzystywała peron dworcowy, posiadający posadzkę, do urządzania na nim zabaw tanecznych i wyprawiania wesel”.

Так было ў царскі час, і, мабыць, у санацыйны час: „Podobnie jak niegdyś przystrajano dworzec z okazji przyjazdów cara, tak samo czyniono przed przybyciem uczestników polowań reprezentacyjnych, organizowanych w Puszczy Białowieskiej od 1930 roku przez prezydenta Ignacego Mościckiego”. Ды і каля века пасля ўзвядзення царскіх харомаў адбываліся на пероне белавежскага палацавага вакзала забаўляльныя мерапрыемствы, у іх ліку і беларуская купальская фэсты. А зараз справа здаецца выглядаць інакш. Вакзал ачэплены салідной металічнай агароджай, а ўступ туды каштуе 10 злотаў; гэта ў сезоне, бо ў лістападзе аб'ект закрыты. Нечаму тут дзівавацца, бо ж калі б не тая моцная агароджа, трываласць якой парытэтная трываласці загарад драпежных звяроў у заапарках, дык зараз жа туды ўварваліся б спантанныя „народныя творцы”, якія запісалі б вакзальныя калоны маніфестамі накшталт рамантычных „Kocham Basię” або і нейкіх патрыятычных...

Апошні раз цар Мікалай II наведаў Белавежу ў пачатку ліпеня 1915 года, прыехаўшы туды з Баранавіч на аўтамабілі. І, мабыць, на чыгуначны вакзал не заглядаў. Пісаў ён тады царыцы: „Дорога в Беловеж тянется на 183 версты, но очень хороша и ровна. Мы ехали по лесу превосходными травяными дорожками и выбрались на большую дорогу у конца пущи. Погода была великолепная, но в этом году такая сушь, что даже болота исчезли, и густая пыль была даже в лесу; у всех, кто ехал, лица почернели до неузнаваемости...”.

Царскі вакзальны павільён у Белавежы мабыць быў знішчаны ў той жа сам час, што і царскі палац, гэта значыць у ліпені 1944 года, калі адступаючыя гітлераўцы парвалі нават усю чыгуначную лінію паміж Белавежай і Бельскам, калі ўзарвалі Благавешчанскую царкву ў Супраслі ці царкву ў Малешах, ці іншыя аб'екты ранейшага мясцовага ландшафту...

Некаторыя аб'екты даўняга краявіду адбудоўваюцца. Вось, адышоўшы ад белавежскага вакзальнага павільёна, пабачыў я іншую будоўлю, якая здалася мець пазалочаны дах, як модныя цяпер пазалочаныя царкоўныя купалы — масток ад вакзала на дамбу ў напрамку палацавага парку. Калі падышоў туды, пабачыў, што работнікі Белавежскага нацпарку накрываюць павільён над кладкай новай гонтай са свежай драўніны, якая здалёк і паказалася мне пазалотай; а разам з адлюстраваннем у вадзе выглядала быццам арэол вакол таго кладачнага павільёна. Быццам арэол вакол даўніны, бо ж даўніна — паводле цара Саламона — гэта і светлая будучыня.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Засталіся адно ўспаміны (28)

Маё знаёмства з маліннікімі пажарнікамі дало належны плён. Я павялічыў круг сяброў на Валодзю Данілюка, Сцяпана Куліка і солтыса Міхала Герыза. Гэта былі людзі з ідэяй, якім грамадскія справы лічыліся супольным дабром вёскі. Нельга прамінуць пры тым мясцовага кіраўніка школы Сцяпана Бурылы, які карыстаўся пашанай і аўтарытэтам у вясковай супольнасці. Узорам суседніх рыгораўскіх пажарнікаў у 1971 годзе ўзнікае ідэя пабудовы святліцы ў Малінніках. Ствараецца грамадскі камітэт пабудовы, які ўзначалілі Уладзімір Данілюк — начальнік пажарнай каманды, Сцяпан Кулік, солтыс Міхал Герыз, Сцяпан Бурыла і Сцяпан Васілюк. Важакі атрымалі падтрымку ў аднавяскоўцаў. Жыхары абавязаліся ўнесці добраахвотную складчыну на пабудову па 250 зл., або здаць саламяныя маты ў „Цэпэлію" на гэту суму. Да канца года грошы былі сабраны. Заставалася затым тэхнічная дакументацыя. Гэтай справай занялася ў 1972 годзе Павятовая камендатура пажарнікаў у Бельску-Падляшскім, пры асабістым удзеле каменданта — маёра Адоліка Часноўскага. Праца рушыла шпаркімі тэмпамі і да канца 1972 года былі выкананы фундаменты. Мураваў Сцяпан Кулік. Але не ўсё добрае знаходзіць шчаслівы эпілог. Знайшліся хітруны, якія пачалі дурыць галаву аднавяскоўцам. Абвінавацілі начальніка Валодзю Данілюка ў махлярстве і грабяжы будаўнічых матэрыялаў. Узнік закалот у вёсцы. Адны сталі на баку Данілюка, іншыя супраць яго. Замаруджваецца пабудова святліцы. Нягледзячы на гэта, Валодзя Данілюк сам ездзіць за будаўнічымі матэрыяламі ў Орлю, пры дапамозе Сцяпана Куліка разгружаюць фуры. Неўзабаве праходзяць выбары ў пажарнай камандзе. Данілюка не выбралі. І сціхла грамадская праца. Колькі не намагаліся дабудаваць кладоўку на пажарнае абсталяванне, заўжды канчалася асечкай. І тут не апраўдалася народная мудрасць, што „адзін у полі не воін". Не хапіла ў Малінніках сапраўднага важака і атрымалася загвааздка... Мы ў сваю чаргу штомесячна наведвалі Маліннікі з кінаперасоўкай. Паколькі Данілюка дом межаваў са школай, дык мы з Валодзем часта сустракаліся і праводзілі размовы. Наша дружба доўжыцца па сённяшні дзень. І не шкадуемся. Пры пачатковай школе працавала Сельскагаспадарчая падрыхтоўчая школа — СПР. Памятаю, як школа арганізавала ў вёсцы курсы на матацыклетныя вадзіцельскія правы. Выкладчыкам быў інструктар з Бельска-Падляшскага Капчук (імя не запамяталася). Шмат хлопцаў удзельнічала не толькі з Маліннік, але і суседніх Рыгораўцаў. Зрабіў я для іх памятны здымак. Але гэта не канец аповеду пра Маліннікі...

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## На рэабілітацыйным аддзяленні (11)

Хутка сцякае час у кампаніі на рэабілітацыйным аддзяленні ў «Ракітніку». Новыя знаёмствы, сяброўскія размовы. Для мяне, карэспандэнта, гэта тэма для новых допісаў. Вось маем пяты дзень змены. Да абеду ўдзельнічалі мы ў занятках і практыкаваннях у фізіятэрапеўтычных кабінетах. Пасля абеду — час на адпачынак. На вячэру ў сталовую не сыходзілі — паламаўся ліфт. На трэцім паверсе, дзе я кватараваў з жанчынамі, вячэру арганізавалі ў святліцы, мужчынам — у сталовай. Пасля, калі я вяртаўся ў свой пакой, падышла да мяне спадарыня Марыя Янчук з Барысаўкі і спытала:

— Вы чытаеце па-руску?

— Чытаю, — адказваю.

— Дам вам пачытаць гэтае, — і ўручыла задрукаваныя лісты паперы з малітвай «Сон Прасвятой Багародзіцы».

— Мне гэтая малітва вядомая, — заяўляю, — ад дачкі атрымаў.

— Але вы чыталі адну малітву, а тут маем больш за пяцьдзясят. Прачытайце, ды пасля вернеце, — сказала суразмоўніца.

Гэта быў пачатак нашай сяброўскай размовы. Затым я папрасіў Марыю ў свой пакой і заахвоціў да... успамінаў.

— А скажыце, як Вам жылося ў мінулым у Барысаўцы, — і прыбаўляю: — Я пакрысе, штосьці аб Барысаўцы ад Пятра Ялозы ў шпіталі даведаўся, але Вы пра сябе раскажыце.

— Выходжу я з Янова, што над рэчкай Нарвай знаходзіцца, — пачынае 79-гадовая сенiёрка Марыя. — Бацькі апрацоўвалі 7,5-гектарную гаспадарку. У мяне былі яшчэ дзве сястрыцы. У Янове была чатырохкласная школа. У пяты клас паступіла ў Трасцянку. Як пачаўся рамонт школы ў Трасцянцы, дык направілі нас у школу ў Целушках. Вёска знаходзілася на другім беразе рэчкі. Затым вымушаны былі сем кіламетраў дабірацца Нарваю чоўнам. Летам, калі вада ападала, рэчку пераходзілі ўброд паміж Качаламі і Пухламі, пасля ў Целушкі ішлі пехатою. Пасля паўгода вярнуліся ў Трасцянку. Памятаю, як у вёску прыехала кінаперасоўка. Была я тады сямнаццацігадовым дзяўчом. Збіралася шмат людзей. Вячэрні сеанс паказвалі ў школе. Памятаю, што кіношнікі начавалі ў нашай стадоле, на сене. У 1962 годзе выйшла я замуж у Барысаўку. Нажылі трое дзетак — двух сыноў і дачку. Сыны абсталяваліся ў Беластоку, дачка — у Супраслі. Мы з мужам засталіся ў Барысаўцы. Апрацоўваем кусочак поля, маем кароўку, у агародчыку садзім варыва дзеля сваёй патрэбы. Дзеці з унукамі наведваюць нас. І такая мая вось гісторыя, — завяршае аповед сенiёрка Марыя Янчук з Барысаўкі.

Запісаў Уладзімір СІДАРУК



## http://kitt.by

„Ніва" ўжо неаднойчы пісала пра тое, як папулярызуюць беларускую мову ў беларускім грамадстве нацыянальна свядомыя прадпрымальнікі. Варта адзначыць, што выкарыстоўваць беларускую мову як маркетынгавы хітрык дзеля выдзялення сваіх канкурэнтаў кемлівыя бізнесмены пачалі каля пятнаццаці гадоў таму. Цяпер жа, падаецца, выкарыстанне мовы гэта не адрозненне, а хутчэй праява жадання адпавядаць модным павевам, бо апошнім часам напісанне таго-сяго па-беларуску з'яўляецца своеасаблівай модай. Калі ж нейкая фірма мае яшчэ і беларускамоўную версію свайго сайта, то гэта стварае ўражанне, што яна сур'ёзны гулец рынка.

Магчыма, менавіта да такой мэты, акрамя, зразумела, жадання распаўсюду беларускага слова, імкнуліся ўладальнікі клінінгавай фірмы з Мінску „Чысты кіт". На сваім сайце яны маюць, акрамя рускай і англійскай, яшчэ і беларускую, што з'яўляецца даволі рэдкай з'явай сярод падобных кампаній у Беларусі.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **https://kitt.by**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне сучаснага пакоя з калькулятарам кошту прыборкі. „Чысціня — гэта проста. Замоўце прафесійную прыборку кватэры. Абярыце зручны час, усё астатняе зробім мы", — упэўнена сцвярджаюць на галоўнай старонцы сайта ўладальнікі „Чыстага кіта". Хоць нідзе там не знойдзеш прозвішчаў гэтых уладальнікаў, але для многіх у журналісцкіх колах Беларусі яны вядомыя — гэта Іван Шыла, былы палітвязень, моладзевы дзеяч, намеснік старшыні Маладога фронту, журналіст-фрылансер, і яго брат Ілля, таксама былы маладафронтавец. Нягледзячы на такіх прабеларуска арыентаваных гаспадароў, „Чысты кіт" не ад пачатку, то-бок не ад 2016 года, меў беларускую версію. „Малады чалавек з Варшавы напісаў афіцыйны зварот з патрабаваннем даць адказ у вызначаны заканадаўствам тэрмін. Пісаў аб парушэнні канстытуцыі нашым «Чыстым кітом» — бо не аказваем паслугі па-беларуску, няма беларускай мовы на сайце, — расказвае Іван Шыла. — Спачатку я быў... Пасля я разумеў многіх сваіх апанентаў, якім пісаў такія звароты дзесяць год таму, а пасля сеў і пераклаў усё на беларускую мову", — цытуе яго беларуская газета „Наша Ніва".

Насамрэч Іван Шыла не ўсё пераклаў на беларускую мову на сваім сайце. Так, аб'явы пра вакансіі, якія ёсць у клінігавай фірме, падаюцца выключна па-руску. Акрамя таго, прыхільнік беларускай мовы, аказваецца, не ведае слова „жырандоля", з-за чаго выкарыстоўвае рускае слова „люстра", што па-беларуску азначае зусім іншы прадмет, і тым самым стварае блытаніну. Напрыклад, у рубрыцы „Што мы прыбіраем" ён напачатку піша: „Чысцім люстэрка", а потым — „Не мыем люстры і плафоны".

Але нягледзячы на такія недарэчнасці, бачна, што браты дбайна падышлі да арганізацыі бізнесу. Па меншай меры, аб гэтым сведчыць рубрыка „Пытанні і адказы". Так, Шылы нават застрахавалі рызыку пашкоджання іх клінерамі рэчаў гаспадароў памяшканняў. „Мы застрахавалі агульнаграмадзянскія рызыкі нашых супрацоўнікаў. Гэта значыць, што калі яны выпадкова пашкодзяць нейкую вашу маёмасць, то страхавая кампанія пакрые страты на суму да 10 тысяч долараў", — супакойваюць патэнцыйных кліентаў уладальнікі клінінгавай фірмы.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Беларускі падпольнік «Раса»



## 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кісяля

Удзельнік антысавецкага падпольнага руху, беларускі настаўнік Уладзімір Кісель нарадзіўся 20 лістапада 1922 г. у Клецку. У другой палове 1930-х гг. скончыў сем класаў польскай школы, у 1941 г. — савецкую сямігодку ў Клецку. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Там атрымаў беларускі гарт, разам з сябрамі стварыў арганізацыю „Саюз беларускіх патрыётаў". З восені 1944 г. працаваў настаўнікам у Качановічах, потым у Рудаўцы на Нясвіжчыне. Адначасна завочна скончыў педагагічнае вучылішча ў Нясвіжы. Пазней паступіў у Гарадзенскі педагагічны інстытут.

У 1946 г. Уладзімір Кісель удзельнічаў у заснаванні падпольнай патрыятычнай арганізацыі „Саюз змагання за незалежнасць Беларусі", якая разгарнула сваю дзейнасць на тэрыторыі Нясвіжскага, Клецкага, Стаўбцоўскага, Гарадзенскага і іншых раёнаў Беларусі. Устаноўчы сход гэтай падпольнай антысавецкай арганізацыі прайшоў у 1946 г. на хутары Царская Ліпа (Нясвіжскі раён). На сходзе прысутнічала 6 чалавек, сярод іх студэнты Гарадзенскага педінстытута. СЗНБ будаваўся з так званых „пяцёрак", склад кожнай з іх ведаў толькі кіраўнік гэтага звяна. Праграма СЗНБ прадугледжвала падрыхтоўку патрыятычных сіл, якія ў разе вайны павінны былі выступіць у абарону беларускага народа і незалежнасці Беларусі. У адпаведнасці з праграмай СЗНБ, павінны былі быць распушчаны калгасы, а зямля — перададзена сялянам. Была выпушчана і распаўсюджана адмысловая антысавецкая лістоўка.

На пачатку 1949 года органамі савецкай дзяржбяспекі было арыштавана кіраўніцтва арганізацыі. Дзякуючы добрай канспірацыі, частка структур СЗНБ так і не была раскрыта. Уладзімер Кісель, які меў падпольны псеўданім „Раса", быў арыштаваны 25 лютага 1949 г. у Гродне. Потым утрымліваўся ў мінскай турме — „амерыканцы". У лістападзе 1949 г. з фармулёўкай „за здраду радзіме, ускосны тэрор і антысавецкую прапаганду" Вайсковым трыбуналам войскаў МУС Беларускай Вайсковай Акругі засуджаны да 25 гадоў пазбаўлення волі з паражэннем у правах і канфіскацыяй маёмасці. Тады (15-17 чэрвеня 1949 г.) на розныя тэрміны зняволення былі засуджаны 17 сябраў СЗНБ (яшчэ адну сяброўку СЗНБ, Веру Касмовіч, судзілі асобна).

Зняволенне Уладзімір Кісель адбываў у Джэзказганскім канцлагеры, што на тэрыторыі Казахстана, а таксама ў крытай турме ў чачэнскім Грозным. Вызвалены толькі ў 1960 г., пасля чаго рэабілітаваны. Пасля вызвалення Кісель вярнуўся ў Гродна, дзе працаваў настаўнікам матэматыкі ў сельскай школе вёскі Грандзічы. Уладкавацца на працу яму дапамог Апанас Цыхун, які быў інспектарам школ.

У 1990-я гады Уладзімір Кісель стаў актыўным сябрам Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў. Жонка, якая раней таксама была ў зняволенні, цяжка хварэла. Адзін з сыноў — Зміцер — актыўны арганізатар і ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху на Гарадзеншчыне ў 1990-х гадах, быў у розных палітычных і грамадскіх арганізацыях, шмат друкаваўся ў газетах „Пагоня" і „Ніва".

Уладзімір Кісель пакінуў успаміны пра падзеі ў Клецку, сваю падпольную арганізацыю, турэмны і лагерны побыт. Памёр 24 жніўня 1999 года ў Гродне. Пахаваны побач з жонкай на могілках каля станцыі Аульс пад Гроднам.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# З дзяцінства
## захаплялі мяне свет і людзі

У школе калісьці казалі: «Kto się czego nauczy, to śpi i mruczy». Мабыць гэта праўда. Мяне з дзяцінства захаплялі свет і людзі. Заўжды хацеў быць першым. Памятаю апошнія гады вайны, як у 1944 годзе (мне тады пяты годзік пастуліў ды ў кароценькіх ільняных нагавічках бегаў), як рускія салдаты з песняй ішлі ва ўрочышча «Верасок» на абучэнне, а я стаяў на ростанях каля Смыкавай хаты і чакаў іх, каб паслухаць песні. Быў я тады неадказным, бестурботным хлапчуком. Не зважаў на тое, што ў хаце засталася параненая матуля, што бабуля старэнькая ды сястрыцы будуць за мяне трывожыцца.


Бестурботны шасцікласнік Валодзя Сідарук

З першага класа пачатковай школы намагаўся паддобрыцца сваёй выхавацельцы. Быў яе «пасыльным» — крэйду з канцылярыі прынасіў, табліцу выціраў. Гэта здавалася быць маім абавязкам. У старэйшых класах, у шостым-сёмым, калі арганізавалі Саюз польскай моладзі (ЗМП), дык першым падаў заяву прыняць у члены, затым у сёмым класе стаў важаком. Памятаю, як пры канцы пяцідзясятых гадоў геадэзічная фірма рабіла ў Кузаве нейкае мeранне. Спатрэбіўся ім памочнік для нашэння прыбораў (геадэзічныя тычкі, «латы»). Я першым адгукнуўся. Геадэзісты падарожнічалі на вайсковым «газіку». Пасля вымярэнняў падаліся ў навакольныя вёскі. Я з імі. Стаяла летняе сонечнае надвор'е. Было, здаецца, пад восень, бо мяне ўзнагародзілі вялікай «шапкай» сланечніку. Гэта было яшчэ пры пашпартным кантролі ў пагранічнай зоне. У Чаромху без пропуску нельга было прыехаць. З цягніка пасажыры праходзілі на вакзал праз адмысловыя брамкі, у якіх пагранічнік правяраў дакументы. Праязджаючы праз Апаку-Вялікую, спынілі нас пагранічнікі. Калі пачалі правяраць дакументы, дык я думаў, што зараз мяне арыштуюць, бо ніякімі дакументамі я не карыстаўся. Але вайскоўцы нават не глянулі ў мой бок. Рабочы дзень геадэзісты канчалі ў Дабрывадзе пры захадзе сонца. Мяне адвезлі дамоў у Кузаву.

Памятаю яшчэ, як у тым жа часе да бацькі прыехаў перад Новым годам сябра з канцлагераў з жонкаю, Дзмітрый Паплаўскі з калёніі Петухоўка, што каля Пасынак. Не было ў іх пропуску ў Чаромху. Пагранічнікі не дазволілі ім варухнуцца са станцыі. Прасілі аднаго кузаўца, каб перадаў бацьку вестку аб іхнім прыездзе. Гэты не паінфармаваў. Новы год Дзмітрый і Вольга Паплаўскія сустракалі пры ўласным пачастунку ў чакальні чаромхаўскага вакзала.

У пачатку пяцідзясятых гадоў дапамагаў я электраманцёрам пры меранні ў час электрыфікацыі вёскі, затым у сямідзясятых геадэзістам пры ліквідаванні цераспалосіцы ў Кузаве. У роднай вёсцы стаў першым актыўным беларусам і карэспандэнтам «Нівы». Навучыўся роднай літаратурнай мове. Рэдакцыянальны калектыў журналістаў лічу другой сям'ёю, а сябе — адным з іх. Так пэўна застанецца.

Уладзімір СІДАРУК

## Не маем аўтобусаў у Беласток

Ужо больш двух гадоў не ездзіць ні адзін аўтобус ПКС і ні адзін прыватны на трасе з Нараўкі ў Міхалова і ў Беласток цераз Гарадзіска, Плянту, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Лешукі і іншыя вёскі. Раней ездзілі яны штодзень раніцай, перад поўднем і пасля поўдня. Вучні даязджалі ў сярэднія школы, а старэйшыя ва ўстановы і прадпрыемствы, у якіх знайшлі сабе працу. Усім выгадна было даехаць у Беласток.

Вярнуць ранейшае курсіраванне аўтобусаў ПКС цераз Новае і Старое Ляўкова дамагаецца ад кіраўніцтва ПКС, між іншым, радны Нараўчанскай гміны і солтыс Новага Ляўкова. Ён атрымаў адказ з ПКС, што зараз не плануюць ніякіх змен у абавязваючых дагэтуль раскладах язды аўтобусаў. Адзін аўтобус, які едзе з Гайнаўкі ў Беласток цераз Нараўку і далей цераз Міклашэва, Семяноўку, Тарнопаль а гадзіне 6.42 раніцы гэта ўжо — паводле ПКС — дастаткова. Назад у Нараўку выедзеце а гадзіне 15.20. Цяпер — у другой палавіне лістапада — у вышэйзгаданыя гадзіны раніцай цёмна на дварэ і вечарам.

Як дабрацца раніцай у Нараўку? Гэта не клопат для ПКСу. Даставайцеся хто чым мае. Можаце нават пешшу. Што там было новаляўкоўцам тыя шэсць кіламетраў, а са Старога Ляўкова сем-восем кіламетраў. З Лешукоў найлепш падавайцеся ў Сушчу, што на другім беразе Нарвы. Будзе ныдрэнная трэніроўка. У здаровым жа целе здаровы дух! **(яц)**




## 26.11 — 02.12

**(22.03. — 20.04.)** 26-30.11. добры момант на карысны фініш нейкага мерапрыемства. Нагоды да службовых паездак, павышэнне кваліфікацый, наладжвання бізнесовых кантактаў. Прафесійныя планы загарантуюць добрыя змены і лепшую будучыню. Але мусіш старанна абдумаць стратэгію і дапрацаванай методыкі. Толькі тады чакае цябе поспех.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час для памнажэння маёмасці; можаш узяць крэдыт. Не зрабі нейкай ляпы 25-29.11. 26-30.11. не спазніся на працу або на важную сустрэчу. У працы і інтарэсах пойдзе лягчэй, прытым больш карысна. Спадзявайся карыснага абароту юрыдычных спраў і ва ўстановах. Час натужлівай працы і максімальнай актыўнасці; маеш шанц на хуткі поспех і паляпшэнне свaёй матэрыяльнай сітуацыі.

**(22.05. — 22.06.)** 26-30.11. знакаміты час на выконванне складаных, патрабуючых дакладнасці спраў. Можаш спадзявацца спрыяння кіраўніцтва, карыснага высвятлення судовых спраў, падпісання дамоў. Але не будуць гэта лёгкія поспехі, а хутчэй вынік цяжкай працы, вынаходлівасці і добрай падрыхтоўкі.

**(23.06. — 23.07.)** Наступіць супакаенне эмоцый. Знойдзеш сябе ў сямейных справах, любові і сужонстве. Можа значна папрaвіцца матэрыяльная сітуацыя, але толькі дзякуючы трываласці сумленнай працы. Пазбягай аднак рызыкоўных крокаў пад уплывам імпульсу, таму што гэта можа мець некарысны фінал.

**(24.07. — 23.08.)** Не разлічвай на большыя грошы, але і выдаткаў будзе менш. Знойдзеш выхад нават са складаных сітуацый. Добры момант на пачатак навучання, асабліва ў дакладных навуках. Пагнібляцца таксама твае здольнасці да самалячэння. Паляпшэнне сітуацыі і матэрыяльнай сферы. Могуць паявіцца прыбыткі з банкавых аперацый, шчасце ў латарэі. Выкарыстай цяпер свае шанцы.

**(24.08. — 23.09.)** 26-30.11. канфрантацыя з нявeтлівай асобай. Спраўна можаш пазбыцца кепскіх звычак, таксама лішніх кілаграмаў. Маеш нейкія тармазы ў сваёй псіхіцы. Ёсць шанцы на сур'ёзныя змены і вызваленне з-пад абмежаванняў. Добры час для твайго здароўя.

**(24.09. — 23.10.)** 26-30.11. пільнуйся, каб не загразнуць у корку на вуліцы. Паявіцца нечаканы шанц прафесійны або фінансавы, але для яго выкарыстання патрэбнае будзе адважнае, мужчынскае рашэнне. Пазбягай паўмер і ідзі ўперад, каб дабіцца найлепшага выніку.

**(24.10. — 22.11.)** Не мусіш турбавацца за грошы. Венера і Юпітэр туга напоўняць твой кашалёк. Дазволь сабе на крыху камфорту, купі сабе штосьці, што зробіць жыццё прыемным. Аптымізм і пазітыўная энергія могуць паўплываць на ўдалыя вынікі тваіх дзеянняў. Магчымая нечаканая ўсмешка фартуны!

**(23.11. — 22.12.)** 26-30.11. вернуцца да цябе прыкрыя ўспаміны. Не пазбягай хатніх абавязкаў, таму што хтосьці старэйшы будзе на цябе злавацца. Калі працуеш над вялікім праектам, які патрабуе заняцца большай цэласцю, надышоў шанц, каб зашпіліць усе элементы. Можа быць, дзякуючы гэтаму будзе чакаць цябе прызнанне і павага.

**(23.12. — 20.01.)** 26-30.11. можаш атрымаць адмоўны адказ на сваю просьбу. У тваёй пары могуць паявіцца пытанні і адрозненні ў поглядах на тыя самыя тэмы. Цяжка будзе запанаваць над эмоцыямі. Добра зробіць вам супольная паездка, дзе палагодзіце канфлікт. Самотны Казярог набярэцца самаўпэўненасці, паверыць у свой інтэлект.

**(21.01. — 19.02.)** Варта цяпер табе больш уключыцца ў хатнія справы, нават пачаць сур'ёзны рамонт. Шматабяцальны пачатак для нейкага істотнага пытання. Шанц на беспраблемны пачатак новага раздзелу ў жыцці. Шчаслівы дзень — 30.11.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш мусіў стануць перад прыкрымі людзьмі ці непрыемнымі заняткамі 26-30.11. Распачатыя справы могуць неспадзявана змяніць свой ход. Станеш перад неабходнасцю рашэння аб чымсьці ў апошнюю хвіліну. Усё можа цябе стаміць, дык вазьмі сабе кароткі водпуск.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | | | | | 3 | | | | | |
| | 4 | | | | | | | | 5 | | | 6 | 7 | |
| | 8 | | | 9 | | | 10 | | | | | 11 | | |
| | | | | 12 | | 13 | | | | 14 | 15 | | | |
| | | | | | | | | 16 | | | | | | |

**1.** Герман, другі пасля Гагарына савецкі касманаўт, **2.** вонкавая абалонка плода, **3.** прозвішча савецкага прэзідэнта з 19-21 жніўня 1991 года, **4.** суботні яўрэйскі адпачынак, **5.** вадкасць з падскурных залоз ад перагрэву, **6.** вадкасць з эрытрацытамі, **7.** сумесная дзейнасць у працы, праекце ці... пакудзеллі, **8.** удзельнік карыды з пікай, **9.** падарунак, **10.** адшліфаваная з абодвух бакоў тонкая празрыстая пласцінка мінералу для даследвання пад мікраскопам, **11.** прадказальнік, **12.** пінская рака, **13.** у Надзеі Артымовіч у белых пейзажах, **14.** жывёла ў гербе Бельска-Падляшскага, **15.** суайчыннік Яраслава Гашка, **16.** гнуткая тканка, якая ўтварае некаторыя часткі шкілета і дыхальных шляхоў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прымаўка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Ака, Енісей, канец, конюх, паж, туз, хота, цана, цаца.

Рашэнне: **Хто на Казанскую жаніхаецца, той не пакаецца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Фіналісты «Еўрабачання — 2017» у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы

**Пры нагодзе чарговага фестывалю беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская восень — 2017» у нашу школу завітаў гурт «NAVIBAND”. Калектыў ужо некалькі разоў выступаў у Польшчы на фестывалях «Басовішча» ды «Бардаўская восень». Міжнароднай публіцы «NAVIBAND» паказаўся ў сёлетнім конкурсе песні Еўрабачанне, у якім упершыню ў гісторыі гэтага мерапрыемства прадставіў твор на беларускай мове. У нас была магчымасць пагаварыць з Ксеніяй Жук і Арцёмам Лук'яненкам — вакалістамі гурта.**







**Фантастычныя Фільмавыя Фізікі:** — Мы вельмі рады сустракаць Вас у нашай школе. Цудоўны канцэрт! Віншуем! На пачатак скажыце, як Вам тут падабаецца — у Гайнаўцы, на Падляшшы?

**Ксенія Жук: —** Нам вельмі падабаецца. Мы штогод сюды прыязджаем і разумеем, што тут зусім іншы слухач. Ён больш уважлівы, часам больш задуменны.

**Арцём Лук'яненка: —** Нам прыемна прыязджаць, таму што мы адчуваем сябе тут як дома. Можна сказаць, што адпачываем на канцэртах. У гэтым годзе мы гралі чатыры канцэрты ў чатыры дні падрад і гэта вельмі крута і цікава. Вялікі дзякуй Ігару Лукашуку і ўсім тым, хто нас запрашае. Нам вельмі прыемна сюды прыязджаць і выступаць.

**Ксенія: —** А наконт вашага ліцэя — нам тут вельмі падабаецца. У нас была невялікая экскурсія. Тут у вас кафэ «Быстры чай» — гэта вельмі класна.

**ФФФ: —** Якія ў вас уражанні пасля канцэрта? Усё пайшло па вашай думцы?

**Арцём: —** Нам спадабалася, што быў такі прыём, але мне вельмі рэдка, так як сёння, лопаюць струны на гітары... Столькі разоў цераз дзве песні — гэта для мяне дзіўна.

**Ксенія: —** Мы хваляваліся, што першы раз выступаем у гэтым месцы. Мы думалі, што можа не зусім падрыхтаваны слухач і ён не ведае, чаго спадзявацца, але гэта не так важнае. Калі ёсць музыка, дык яна аб'ядноўвае. Калі ёсць магчымасць пахлопаць, паспяваць, то не трэба шмат размаўляць, таму што гэта музыка гаворыць.

**ФФФ: —** Вы сказалі, што слухач у Польшчы больш уважлівы. Вы бачыце розніцы паміж выступамі тут і на Беларусі?

**Ксенія: —** Аднолькава цёпла прымаюць нас у Польшчы і на Беларусі. У Мінску — нашым родным горадзе, вельмі цёпла. Але трэба сказаць, што тут больш уважліва нас слухаюць.

**Арцём: —** Так, мы прыязджаем і нам трэба прывыкаць. Пасля такіх гучных фестываляў як «Басовішча», дзе з першай песні ўсе скачуць і спяваюць з намі, тут мы разумеем, што трэба нешта падказваць, бо людзі сядзяць і слухаюць. З першай песні нам здаецца, што ёсць нешта не так, як павінна быць. Потым мы разумеем, што так выхаваныя людзі і яны прывыклі слухаць. Калі іх крыху разварушым, дык усё атрымаецца.

**ФФФ: —** Большасць людзей ведае Вас з Еўрабачання і ў нас некалькі пытанняў наконт гэтай тэмы. Вы пазнаёміліся з конкурснымі зоркамі Еўрабачання?

**Ксенія:** — Быў Монс Сельмерлёў, які перамог у мінулым годзе. Мы добра пазнаёміліся з Джамалай і далей утрымліваем з ёй кантакт. Мы пасябравалі таксама з удзельніцай з Польшчы.

**ФФФ: —** Які ўплыў на Вашу кар'еру меў выступ у гэтым конкурсе?

**Арцём: —** Мне здаецца, што дастаткова вялікі, таму што людзі даведаліся, што ў нас ёсць шмат іншых песень, што мы «жывы» гурт. Гэта вялікі досвед і, галоўнае — яго правільна выкарыстаць, а гэта значыць — ісці далей, пісаць новыя песні, выступаць, паказваць сваю творчасць.

**Ксенія: —** У нас на Беларусі людзі вельмі сочаць за конкурсам, гэта па-першае. А па-другое, пасля конкурсу незразумела што адбываецца з выканаўцамі. Гэта вялікі конкурс і ў іх паяўляецца творчы крызіс, яны затрымліваюць кар'еру.

**ФФФ: —** Калі ідзе пра сам Ваш выступ, дык адкуль паявілася ідэя выступаць на лодцы?

**Арцём: —** Гэта мае сувязь з назвай нашага гурта. Па-італьянску яна абазначае «карабель». Але гэта таксама была ідэя нашага рэжысёра з Кіева. Гэта дынамічная песня і мы мелі так крочыць, ляцець над горадам.

**Ксенія: —** Гэта таксама лодка, якая ўмее лятаць. Але галоўнае, што яна не перашкаджала і не адводзіла ўвагі. Проста сканцэнтравала яе на нас. У планах гэта мела быць толькі лодка, а ў ёй павінны знаходзіцца нейкія рэчы, якія давалі б асацыяцыю, што мы ляцім. Мы зрабілі па-іншаму. За намі было відэа, на якім было відаць, што мы ўзлятаем.

**ФФФ: —** Вы хацелі б яшчэ раз паехаць на Еўрабачанне?

**Арцём: —** Пакуль мы можам сказаць, што не. Такая нагрузка зараз нам напэўна больш не патрэбна.

**Ксенія: —** Гэта праўда. Гэта не так проста, як можа падавацца на першы погляд.

**ФФФ: —** Дзе Вы знаходзіце творчае натхненне да новых песень?

**Арцём: —** Гэта напэўна прырода. Мы адчуваем вялікую сілу, калі мы выязджаем за горад, у лес, над возера. Асабліва пасля конкурсу Еўрабачання мы ўсім гуртом на тыдзень паехалі на хутар, дзе нічога не было — мы гатавалі на вогнішчы і г.д. Тады мы ўсе разам прыдумвалі новыя песні пад спевы птушак, якія нас натхнілі. Галоўная крыніца нашага натхнення — прырода.

**Ксенія: —** Вандроўкі таксама моцнае натхненне. У нас атрымліваецца так, што калі паяўляецца якая-небудзь ідэя з тэкстам ці без яго, мы прыносім гэта нашым хлопцам, паказваем, робім разам аранжыроўку. Вось так адбылося на хутары. Гэта класна, калі мы разам вырашаем, што рабіць. Мы хацелі б яшчэ раз гэты вопыт паўтарыць. Нам гэта вельмі спадабалася.

**ФФФ: —** А якія людзі, выканаўцы ды гурты вас інспіруюць?

**Арцём: —** Апошнім такім натхненнем быў канцэрт Фінка — брытанскага выканаўцы. Былі там вельмі кранальныя моманты. Не так даўно былі мы на канцэрце Стынга, мы з'яўляемся прыхільнікамі яго творчасці.

**Ксенія: —** Мы трапілі таксама на фестываль у Берліне і там убачылі *Foo Fighters*, але атракцыёнам для нас быў гурт *London Grammar*, які нас натхніў. Гэта не масавая музыка, але ў тры асобы патрапяць усё зрабіць на сцэне. Мы, як вакалісты, таксама інакш на гэта ўсё глядзім. Летась на тым самым фестывалі мы трапілі на *Kings of Leon* і іх выступ натхніў Арцёма да напісання песні «Гісторыя майго жыцця». Такія вось фестывалі даюць менавіта вялікую матывацыю.

**Арцём: —** Для мяне атракцыёнам быў яшчэ гурт *Catfish and the Bottlemen* — хлопцы з Брытаніі. Я быў у захапленні, адкуль у чалавека можа быць такая энергія і харызма.

**ФФФ: —** Як наогул пачалася Ваша музычная дарога?

**Арцём: —** У мяне і ў Ксюшы з дзяцінства ўжо пачалася гэтая дарога. А сустрэліся мы выпадкова. Запісаўшы адну песню, мы вырашылі, што трэба гэта працягнуць. А пасля мы пажаніліся.

**Ксенія: —** На пачатку Арцём працаваў яшчэ на радыё, а я была настаўніцай і вучыла дзяцей спяваць. А пасля мы зразумелі, што мы можам і павінны абраць адну дарогу — або праца, або музыка. І мы выбралі музыку, таму што гэта наша душа. Я думаю, што ў кожнага ёсць такі момант, калі трэба зразумець, куды далей ісці і гэта вельмі цяжка.

**Арцём: —** І самае важнае, што гэта павінен выбраць толькі ты адзін. Ніхто не падкажа, як правільна зрабіць. Можа таксама і нашы бацькі ў нас не верылі. А цяпер, калі яны бачаць гэты натоўп людзей, які спявае нашыя песні, яны разумеюць, што спяванне гэта таксама цяжкая праца.

**Ксенія: —** А калі яны трапілі на Еўрабачанне і былі там амаль тыдзень і стаялі на месцы для журналістаў, дык там зразумелі, як нам цяжка і якая гэта моцная праца. І я ўпэўненая ў тым, што цяпер яны ўспрымаюць гэта больш сур'ёзна, чым год таму назад.

**ФФФ: —** Як Вы ставіцеся да таго, што спяваеце на беларускай мове?

**Арцём: —** Можна сказаць, што мы амаль штодзённа карыстаемся беларускай мовай. Мы паміж сабой у гурце шмат размаўляем па-беларуску. А песні пішуцца толькі на беларускай мове. Я вельмі цешуся, што многа сфер так натуральна адраджаецца на Беларусі. Сэрцам мы так адчуваем, што гэта мова гарманічная. Мы можам добра выказваць свае думкі.

**ФФФ: —** Маеце ўжо нейкія планы на будучыню?

**Ксенія: —** Мы выдаем новую кружэлку, на якой запісалі дзесяць песень цалкам на беларускай мове. На англійскай мове мы нават не будзем прабаваць пісаць, таму што мы не дастаткова беглыя ў гэтай мове.

**Арцём: —** Мы хочам далей з нашай роднай мовай паказваць сваю душу. І на гэтым этапе гэта для нас вельмі важнае. Мы марым, каб папасці на вялікія еўрапейскія фестывалі, але мы выступім толькі з беларускім творам, таму што не ўсе пра нашу мову ведаюць. Калі мы трапілі на Еўрабачанне, нас пыталі: «То ў вас ёсць свая мова?» і мы проста паказваем, што яна ёсць, а да таго яна вельмі пявучая.

**Ксенія: —** Здараецца, што песні пішуцца і на рускай мове, таму што я раней, да сустрэчы з Арцёмам, не так шмат размаўляла па-беларуску. Маё асяроддзе было проста больш рускамоўнае. Мае бацькі калісьці многа гаварылі па-беларуску і яны нават прыязджалі сюды на Беласточчыну з тэатрам. Яны ездзілі па вёсках, спявалі, гралі нейкія спектаклі. З дзяцінства, менавіта, я шмат чула беларускую мову, потым менш, але, дзякуючы Арцёму, я стала больш размаўляць на роднай мове, спрабаваць пісаць песні, чым таксама ганаруся.

**ФФФ: —** Ёсць штосьці, што Вы хацелі б сказаць маладым людзям, якія жывуць у Польшчы, але таксама адчуваюць сябе беларусамі?

**Ксенія: —** Гэта вельмі цяжкая сітуацыя, але гэта класна, што вы адчуваеце сябе беларусамі, што ў нас, беларусаў, тых, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі ёсць магчымасць прыязджаць да вас і вось так проста размаўляць.

**Арцём: —** Хочаца сказаць, што трэба ісці да сваёй мары. Не важнае з якой ты краіны, на якой мове размаўляеш, галоўнае быць верным сваёй справе і ўсё будзе добра.

**Ксенія: —** І я яшчэ хацела б вам сказаць, што жадаю вам поспехаў, каб у вас усё атрымалася ў жыцці!

**ФФФ: —** Дзякуем за размову!

**Фантастычныя Фільмавыя Фізікі пад рэдакцыяй Наталлі Васько, Гайнаўскі белліцэй**

ISSN 0546-1960 48